МАЙ
1931



# Паляўнічы Беларусі

5

## ЗЬМЕСТ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

г. Менск. Савецкая, 68, тэл. 14-60

ВЫДАНЬНЕ ГАЗ. „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 1 год . . . 2 руб. — к.
На паўгада . . 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы . . . . 70 к.
Асобны нумар каштуе 30 к.

1931 № 5

МАЙ



## Узяць кармавы перакоп

Чарговай і важнейшай проблемай у сельскай гаспадарцы зьяўляецца жывёлагадоўля. Партыя і ўрад шырока разгарнулі работу па пашырэньні сеткі жывёлагадоўчых і сьвінагадоўчых саўгасаў і колгасаў. Лік малочнага гурту сёлета будзе даведзен па соцыялістычным сэктару БССР да 2.225 тысяч і сьвіней 2.925 тысяч галоў. Таксама значна ўзрасьце гурт іншай дробнай жывёлы, авечак. Хуткім тэмпам разьвіваецца трусагадоўчая гаспадарка па БССР.

Аднак, вырашэньне жывёлагадоўчай проблемы цесна і непарыўна зьвязана з утварэньнем адпаведнай кармовай базы. Гістарычным бічом жывёлагадоўлі ў нас зьяўляецца бяскорміцца. З-за адвечнай бяскорміцы мы маем гадовы ўдой каровы ў тры разы менш, чым у Даніі. Па гэтай-жа прычыне мы атрымліваем мяса ад буйнай рагатай жывёлы ў два разы менш, чым Аргентына.

Усё-ж ня гледзячы на такія вялікія страты жывёлагадоўчай гаспадаркі ад бяскорміцы на кармовую проблему мы зьвяртаем недапушчальна мала ўвагі, недаацэньваем важнасьці работы па падвядзеньню адпаведнай кармовай базы пад жывёлагадоўлю.

У мінулым годзе зямельныя калгасныя і коопэрацыйныя організацыі, а таксама навукова-дасьледчыя ўстановы і ўся працоўная грамадзкасьць вёскі не разгарнулі баявой работы па здабычы корму. І, як вынік гэтага, работа па палепшаньню сенажацяй праведзена недастаткова. Плян сіласаваньня выканан усяго на ўсяго на 10 проц. Па трусагадоўчай гаспадарцы Менскага гарадзкога саюзу паляўнічых з-за недахопу корму сабекошт труса ўзьняўся да 8 рублёў, у той час, калі гаспадарка здавала загатоўчым організацыям труса за 6 рублёў.

Трэба адзначыць, што і сёлета яшчэ не разгорнута шырокая работа для пашырэньня кармовай базы і сіласаваньня. Слаба мобілізавана ўвага працоўнай грамадзкасьці на актыўны ўдзел у працы па кормаздабываньню.

Тав. Якаўлеў на VI зьезьдзе Саветаў адзначыў, што „Непадзельнай і складанай часткай кармовай програмы зьяўляецца палепшаньне маючыхся сенажацяй і выганаў“. „Толькі адно гэтае палепшаньне па выліках эканомістаў, аграномаў і жывёлаводаў дасьць каля паловы патрэбнага для жывёлы корму“. Адсюль зусім відавочна неабходнасьць актыўнай і настойлівай барацьбы працоўнай грамадзкасьці за выкананьне плянаў палепшаньня і культывізацыі сенажацяй і выганаў.

Сёлетняя вясеньняя пасяўная кампанія павінна стварыць рашучы пералом. Трэба забясьпечыць для соцыялістычнай жывёлагадоўлі магутную кармовую базу. У парадак дня павінна быць уключана лічба 500 тысяч *га* сілосных культур і сеяных траў, 1 мільён тон сілоснай масы. Выканаць і перавыканаць заданьне Наркамзему па палепшаньню сенажацяй і выганаў.

Трусагадоўчая гаспадарка ў сёлетнюю вясеньнюю пасяўную кампанію павінна поўнасьцю падвесьці кармовую базу і забясьпечыць труса на лета і зіму добрым кормам.

Для гэтага неабходна зараз-жа разгарнуць шырокую масавую работу сярод колгасьнікаў, рабочых саўгасу і шырокіх мас аднаасобнікаў беднякоў і серадьнякоў.

Члены саюзу паляўнічых павінны быць у першых шэрагах барацьбітоў на кармавым перакопе, павінны зьявіцца актыўнымі памочнікамі партыі і комсамолу арганізаваць масавы паход за кармы.

Сілай свайго прыкладу паляўнічы-колгасьнік, рабочы саўгасу, бядняк і серадняк аднаасобнік павінен запаліць энтузіязм шырокіх мас на барацьбу за кормаздабываньне.

Надаючы выключна вялікае значэньне кармавой проблеме ў справе вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы агітмасавы аддзел ЦК УсеКП(б) арганізаваў цэнтральны кармовы штаб, у задачы якога ўваходзіць мобілізаваць шырокія колы колгасьнікаў, рабочых саўгасаў, комсамол, профсаюзныя організацыі і шырокія бядняцка-серадняцкія масы ў паход за корм для соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Трэба на мясцох організаваць ударныя тройкі, брыгады для барацьбы за корм. Усю работу па кормаздабываньню праводзіць мэтадам соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, організуючы з колгасьнікаў, моладзі, бяднякоў і сераднякоў аднаасобнікаў ударныя брыгады па сілоснаму будаўніцтву, па палепшаньню сенажацяй, выпасаў, для выкананьня плянаў сяўбы кармовых культур, сенаўборкі і г. д., чым забясьпечыць ударныя тэмпы работы.

Пад кіраўніцтвам партыйных організацый нанесьці руйнуючы ўдар па праваопортуністычным настроям, якія выражаюцца ў скарачэньні пасеў-плошчы пад кармавымі культурамі. Нанесьці руйнуючы ўдар па кулацтву і яго спробах сарваць выкананьне плянаў сяўбы кармавых культур і плянаў сіласаваньня. **Выкарыстаўшы мінулагодні вопыт барацьбы за кармы, за сілос, улічыўшы мінулагоднія недахопы ў гэтай рабоце выступім разгорнутым фронтам у бой за сена, за палепшаньне сенацяй, за сілос. Пераможам адвечную бяскорміцу. Штурмам возьмем кармовы перакоп.**

# Аб спажывецкай каапэрацыі

*Усім партыйным, савецкім, гаспадарчым каапэрацыйным, прафсаюзным і камсамольскім арганізацыям*

Сур'ёзьнейшая роля спажкаапэрацыі ў справе ажыцьцяўленьня народна-гаспадарчага пляну трэцяга году пяцігодкі, гіганцкі рост таваразвароту краіны і вялікая ўдзельная вага каапэрацыйнай тавараправодзячай сеткі пры адсталасьці і бюракратычнасьці каапэрацыйных органаў патрабуюць перабудовы работы спажкаапэрацыі на новых пачатках.

Асноўным недахопам у цяперашняй рабоце спажкаапэрацыі зьяўляецца непаваротлівасьць і бюракратызм у рабоце, якія вядуць да замарожваньня таваразвароту, з прычыны чаго нярэдка штучна ствараецца беставар'е пры значным павялічэньні таварных рэштак на складах.

Гэтыя недахопы ў рабоце спажкаапэрацыі тлумачацца галоўным чынам тым, што, выцясьніўшы прыватніка і заваяваўшы манапольнае становішча на рынку, спажкаапэрацыя стала пагарджаць прынцыпам гаспадарчага разрахунку і задачай разгортваньня савецкага гандлю, памылкова прадпалажыўшы, што ўжо насьпелі ўмовы для непасрэднага пераходу да простага прадуктаабмену.

Пры гэтым спажкаапэрацыя забылася, што выцясьненьне прыватніка і прыватнага гандлю яшчэ не азначае зьнішчэньня ўсякага гандлю, што, наадварот, выцясьненьне **прыватнага** гандлю мяркуе ўсямернае разьвіцьцё **савецкага** гандлю і разгортваньне сеткі каапэрацыйных і дзяржаўных гандлёвых арганізацый па ўсім СССР.

На падставе гэтых памылак узьнікла аслабленьне прынцыпу выбарчасьці нізавых зьвеньняў спажкаапэрацыі і адрыў каапэрацыі ад сваёй масавай базы, што не магло ня прывесьці да ўзмацненьня бескантрольнасьці апарату, ігнараваньня запатрабаваньняў спажыўцоў і сыстэмы „абязьлічанага гандлю“, г. зн. завозу і продажу тавараў бяз уліку асаблівасьцяй

раёнаў СССР і запатрабаваньняў іх насельніцтва.

У мэтах зьнішчэньня гэтых недахопаў і перабудовы работы спажкаапэрацыі на новых пачатках, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Цэнтрасаюз прапануюць правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы.

## I

### Раздробны і гуртавы гандаль спажкаапэрацыі

1. У мэтах лепшага абслугоўваньня спажыўца, спрашчэньня кіраўніцтва справай забесьпячэньня спажыўца, паскарэньня таваразвароту і спэцыялізацыі кіраўніцтва гандлёвай сеткай стварыць пры Цэнтрасаюзе гуртавыя, галінавыя, усесаюзныя аб'яднаньні, якія дзейнічаюць на падставе гаспадарчага разрахунку на наступных групах тавараў: а) гатовая вопратка; б) галёшы, абутак і скураныя тавары; в) галянтарэя, трыкатаж, гатовая бялізна; г) мануфактурна-сукоцна-ваўняныя вырабы; д) тавары па культурным абслугоўваньні: е) сілікатныя вырабы; ж) скабяныя вырабы; з) вырабы саматужнай прамысловасьці; і) бакалейна-гастранамічныя тавары; к) плодагароднiна (з функцыямі загатоўча забясьпечваючымі); л) малочныя прадукты (з функцыямі загатоўча-забясьпечваючымі); а Цэнтрасаюз перабудаваць па тыпу ВСНГ і яго прэзыдыуму.

У рэспубліках, краёх і абласьцях стварыць рэспубліканскія, краявыя і абласныя аб'яднаньні раздробнага гандлю па вышэйпералічаных групах тавараў з дапаўненьнем аб'яднаньняў па наступных групах тавараў: а) мэблевыя вырабы, б) мясаптушка; в) цукерныя вырабы; г) дзіцячага забесьпячэньня.

Увага. У тых выпадках, калі ў паасобных гарадох па наяўнасьці гандлёвай сеткі ці нязначнасьці таваразвароту вылучэньне спэцыялізаванай тавараправодзячай сеткі па ўсіх пералічаных відах тавараў зьяўляецца нямэтазгодным, дапушчаць арганізацыю комбінаванай сеткі па продажы розных тавараў па магчымасьці аднародных.

Для кіраваньня галінавымі аб'яднаньнямі стварыць дырэкцыі, якія назначаюцца і зацьвярджаюцца па гуртавых аб'яднаньнях—прэзыдыумах Цэнтрасаюзу, па раздробных — прэзыдыумамі рэспубліканскіх, краявых і абласных спажсаюзаў.

Рэспубліканскім, краявым і абласным галінавым аб'яднаньням перадаць усе спэцыялізаваныя магазыны спажывецкай каапэрацыі па паказаных групах тавараў з абавязацельствам арганізацыі пры кожным аб'яднаньні складачна-тарна-транспартнай гаспадаркі.

Прапанаваць Цэнтрасаюзу стварыць у рэспубліках, краёх і абласьцях гуртавыя склады, а ВСНГ—перадаць Цэнтрасаюзу рад базавых складаў, якія ня маюць непасрэднай сувязі з прадпрыемствамі. ВСНГ і Цэнтрасаюзу ў 2-х дэкадны тэрмін паведаміць ў СПА аб колькасьці складаў, якія перадаюцца, і аб умовах іх перадачы.

2. Скасаваць практыку нармаваньня продажу прамтавараў, устанавіўшы часова толькі для паасобных найбольш дэфіцытных тавараў, норму водпуску ў адны рукі.

Скасаваць практыку браніраваньня прамтавараў (за выключэньнем браніраваньня прамтавараў па апэрацыях: лесараспрацоўкі, лесасплаў, пуціна, загатоўкі—пушніны, яек і масла) і продажу іх па ардэрох, захаваўшы часова водпуск па ардэрох толькі для вопраткі (гарнітуры, польты) і абутку з устанаўленьнем тэрміну дзеяньня ардэроў (10 дзён).

3. Устанаўляючы, што галоўная маса тавараў збываецца праз каапэрацыйную раздробную сетку, вызначыць удзел дзяржаўнага раздробнага гандлю ў размеры ня больш 30 проц. усіх фондаў гарадзкога гандлю, дапускаючы з дазволу СПА ў паасобных гарадох павышэньне ўдзельнай вагі дзяржгандлю да 35 проц.

4. Прапанаваць Цэнтрасаюзу прыняць усе неабходныя меры да таго, каб да восені гэтага году былі адкрыты новыя магазыны прадметаў харчаваньня (хлеб, мяса птушка, рыба, гароднiна, малочныя прадукты, фрукты) у колькасьці ня менш 200 у Маскве, ня менш як па 150 у Ленінградзе і Донбасе, ня менш як па 100 у Харкаве, Кіеве, Растове, Баку, Ніжнім-Ноўгарадзе, Іванава-Вазьнясенску, Тыфлісе, Сталінградзе, Сьвярдлоўску, Адэсе і Ташкенце і ня менш як па 80 у іншых буйных гарадох і прамысловых цэнтрах СССР.

5. Цэнтрасаюзу, ВСНГ і Народнаму Камісарыяту Забесьпячэньня аднавіць сыстэму папярэдніх заказаў спажкаапэрацыі прамысловасьці.

II

**Вытворчыя прадпрыемствы спажкаапэрацыі**

1. Стварыць у сыстэме спажкаапэрацыі вытворчыя аб'яднаньні па наступных галінах:

а) буйныя мэханізаваныя хлебапякарні і хлебазаводы з аб'яднаньнем іх у спэцыяльныя трэсты пры абласных, краявых і рэспубліканскіх саюзах спажкаапэрацыі і з уваходжаньнем іх ва ўсесаюзнае аб'яднаньне хлебапячэньня пры Цэнтрасаюзе;

б) буйныя гародныя, сьвінагадоўчыя, малочныя і птушніцкія гаспадаркі спажкаапэрацыі, якія маюць абласное, агульнагарадзкое ці міжраённае значэньне, з арганізацыяй іх у самастойныя гаспадарчыя аб'яднаньні пры рэспубліканскіх, краявых і абласных саюзах і з забесьпячэньнем удзелу ў іх мясцовага савету і прафсаюзаў.

2. Для разгрузкі спажкаапэрацыі ад неўласьцівых ёй функцый перадаць ад каапэрацыі:

а) прамысловасьць—Народнаму Камісарыяту Забесьпячэньня (акрамя прадпрыемстваў дробнага поўсаматужнага тыпу: вытворства мінэральных вод, пераапрацоўка розных харчовых адыходаў ад гандлю і інш.);

б) цырульні і пашывачныя майстэрні—сампрамкаапэрацыі;

в) пральні—гарсаветам.

Перадачу як прамысловых прадпрыемстваў, так і пралень, цырулень і пашывачных майстэрань правесьці з кампэнсацыяй каапэрацыі па адпаведных разрахунках;

г) культурнае абслугоўваньне (кінопērасоўкі, радыё, бібліятэкі)—Саюзкіно, НКАсьветы, Наркампаштэлю; дзіцячыя ўстановы—органам НК Аховы Здароўя і НКАсьветы з захаваньнем адпаведных адлічэньняў каапэрацыі на культабслугоўваньне сваіх пайшчыкаў.

III

**Загатоўчая дзейнасьць спажкаапэрацыі**

1. НК Забесьпячэньня сумесна з Цэнтрасаюзам вызначыць віды загатовак, па якіх спажкаапэрацыя павінна зьяўляцца асноўным загатоўшчыкам для данай вобласьці (краю, рэспублікі).

2. У мэтах устанаўленьня непасрэднай сувязі п між буйнымі прамысловымі цэнтрамі і вырабляючымі раёнамі дапусьціць ЦРК, „ТПА“ і закрытыя рабочыя каапэратывы гэтых цэнтраў да загатовак гародніны і малочных прадуктаў як унутры вобласьці (краю, рэспублікі), так і ў раёнах іншых абласьцей (краёў, рэспублік) пад кантролем органаў НК Забесьпячэньня.

3. Гародніну і малочныя прадукты, якія загатаўляюцца спажкаапэрацыяй для мясцовага забесьпячэньня, скарыстаць апошняй непасрэдна без якіх-бы там ні было нацэнак на гэтыя загатоўкі з боку органаў НК Забесьпячэньня.

4. У мэтах стымуляваньня справы адкорму сьвіней пры сталоўках, заводзкіх каапэратывах і інш. нізавых зьвеньнях спажкаапэрацыі—лічыць неабходным замацаваньне за імі ўсёй прадукцыі, якая атрымліваецца ад сьвінаадкормачных пунктаў з тым, каб 50 проц. гэтай прадукцыі ішлі ў якасьці дадатковага забесьпячэньня данага прадпрыемства звыш пляну.

IV

**Аўтаномныя сэкцыі ў сыстэме спажывецкай каапэрацыі**

1. Вызначыць грамадзкае харчаваньне ў самастойную сэкцыю ў сыстэме спажывецкай каапэрацыі з асобным паявым капіталам і балянсам, перадаўшы ёй аб'яднаньне „Всенарпит“.

2. Прапанаваць Цэнтраюзу неадкладна прыступіць да арганізацыі, па прыкладзе чыгуначнай і воднай каапэрацыі, наступных аўтаномных каапэрацыйных сэкцый: а) рыбалавецкай, б) лесараспрацовак і лесаплаву, в) торфараспрацовак.

V

**Зарплата**

1. Павысіць зарплату работнікам спажывецкай каапэрацыі і ўвесьці сыстэму захвочваньняў аплаты працы шляхам устанаўленьня зарплаты ў процантах ад звароту.

2. Увесьці ў сыстэму прэміяваньня за перавыкананьне якасных паказальнікаў гандальфінпляну, паскарэньне таваразвароту, зьніжэньне натуральнага ўбытку і страт тавараў, скарачэньне гандлёва

арганізацыйных выдаткаў, выкананьне і перавыкананьне плянаў па зборы паявых узносаў, укладаў, авансаў і каапэраваньні насельніцтва.

Гэтыя мерапрыемствы павінны быць ажыцьцёўлены па гарадзкой раздробнай сетцы Масквы, Ленінграду, Харкава і Данбасу да 15 мая, па ўсёй сыстэме спажывецкай каапэрацыі—да 15 жніўня 1931 году.

3. Прапанаваць Цэнтрасаюзу разам з ЦК саюзу работнікаў каапэрацыі і дзяржаўнага гандлю ў месячны тэрмін распрацаваць сыстэму аплаты работнікаў сельскай спажывецкай каапэрацыі.

VI

**Кадры спажывецкай каапэрацыі**

Цэнтрасаюзу разгарнуць у 1931 годзе кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы ня менш 150 000 работнікаў (заг. магазынамі, заг. аддзяленьнямі, прадаўцоў, работнікаў грамадзкага харчаваньня, заг. сталоўкамі, кухараў, работнікаў па хлебапячэньні, а іменна: брыгадзіраў, арганізатараў і пекараў, работнікаў прыгараднай гаспадаркі, а іменна: агароднікаў, заг. адкормачнымі пунктамі, малочнымі фэрмамі і інш. рахункаводных работнікаў).

VII

**Аб рабоце партыйных і прафэсіянальных арганізацый у магазынах і складах**

1. Для пасьпяховага ажыцьцяўленьня пастаўленых перад каапэрацыйнымі арганізацыямі задач узмацненьня партыйнага ўплыву ва ўсіх зьвеньнях спажывецкай каапэрацыі стварыць пры кожным ЗРК цэхавыя парт'ячэйкі з партгрупамі ў кожнай паасобнай гаспадарчай адзінцы (сталоўка, магазын, фэрма і інш.), якія ўваходзяць у склад партарганізацыі прадпрыемства. На прадпрыемствах, якія ня маюць ЗРК, арганізаваць парт'ячэйкі пры закрытых разьмеркавальніках. Пры ўсіх буйных сярэдніх магазінах і складах усёй іншай сеткі спажывецкай каапэрацыі арганізаваць самастойныя партыйныя і камсамольскія ячэйкі, падпарадкаваныя непасрэдна райкому ці гаркому партыі.

2. У найкарацейшы тэрмін перагледзець сетку прафсаюзных органаў каапэрацыі з тым, каб ахапіць імі кожны харчовы магазын, склад, базу і г. д., падпарадкаваўшы іх кіраўніцтву адпаведных раённых ці абласных прафарганізацый. Пры кожным ЗРК арганізаваць самастойны мясцком з прафгрупамі пры паасобных гаспадарчых адзінках, дабіваючыся максымальнага ахопу прафсаюзным членствам каапэрацыйных работнікаў.

---

ЦК партыі, СНК Саюзу ССР і Цэнтрасаюз не сумняваюцца, што мясцовыя партыйныя, прафэсыянальныя, каапэрацыйныя, камсамольскія і савецкія арганізацыі прымуць усе меры да таго, каб гэта пастанова была выканана дакладна і неадкладна.

**Старшыня СНК Саюзу ССР**
**В. Молатаў (Скрабін).**
**Сакратар ЦК УсеКП(б) І. Сталін.**
**Старшыня Цэнтрасаюзу**
**І. Зяленскі.**

**ЛАВІ САМ, ВУЧЫ ДРУГІХ ЛАВІЦЬ. ЗДАВАЙ КРАТА, НЯ ТРЫМАЮЧЫ ЯГО НА КВАТЭРЫ.**



# Дзеньнік сацыялістычнага будаўніцтва

## Што трэба ведаць аб трэцім годзе пяцігодкі

У 1931 годзе народны прыбытак па пляну павялічваецца на 38,9 проц.; удзельная вага сацыялістычнага сэктару ў народным прыбытку ўзрастае да 81,8 проц.

Валавая прадукцыя аграмаджанага сэктару прамысловасьці складзе 97,5 проц.

На капітальнае будаўніцтва ў аграмаджаным сэктары будзе асыгнавана сямнаццаць мільярдаў рублёў.

50 проц. сялянскіх гаспадарак павінна быць калектывізавана.

У трэцім годзе пяцігодкі трэба па-бальшавіцку змагацца за:

83,5 млн. тон вугалю,
25,5 „ „ нафты,
16,1 „ „ жалезнай руды,
8,0 „ „ чыгуна,
8,8 „ „ сталі,
6,7 „ „ праката,

выкананьне праграмы сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва ў 760 млн. руб.;

выкананьне праграмы агульнага машынабудаўніцтва 2.483 млн. руб;

1,1 млн. тон супэрфасфату;

2.820 млн. мэтраў хлапчата-бумажнай тканіны;

661 тыс. тон паперы і кардону;

35 млн. бочак цамэнту;

330 млн. тон груза-звароту па чыгунцы;

рост вытворчасьці працы на 28 проц.; падвышэньне ўраджайнасьці на 9,1 проц.;

паніжэньне сабекошту па прамысловасьці ВСНГ на 10 проц;

выкананьне фінпляну ў 31,1 млрд. руб.;

утварэньне рэзэрваў у 1,5 млрд руб.;

1931 год зьявіцца годам значнага зруху ў бок павялічэньня ўдзельнай вагі ўсіх элемэнтаў сацыялізма ва ўсіх галінах нашай народнай гаспадаркі.

1931 год зьяўляецца годам дасягненьня абсалютнай перавагі сацыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы.

Што гэта азначае?

Гэта азначае, што сацыялізм перамагае на гэтым вялізарным вучастку народнай гаспадаркі, які з пункту гледжаньня пабудовы сацыялізму зьяўляецца найбольш цяжкім. Перавага сацыялістычных элемэнтаў на вёсцы—гэта ёсьць завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялізма ў нашай краіне.



Пабудова Дому Ўраду ў Менску.

У трэцім годзе пяцігодкі ўвойдуць у строй сацыялістычнай прамысловасьці ня менш 500 новых фабрык і заводаў.

Ва ўсе прадпрыемствы, якія ўступаюць у эксплёатацыю ў 1931 годзе, укладзена 4 млрд. рублёў.

К 1 кастрычніку 1931 году будуць пушчаны першыя дзьве домны Магнітагорскага заводу, па моцнасьці ня маючыя сабе роўных ва ўсім сьвеце. Моцнасьць завода спачатку складзе 2,5 млн. тон чыгуна, а потым будзе даведзена да 4 млн. тон чыгуна штогод. Электрастанцыя Магнітагорска запраектавана на 85 тысяч кілёват. Гэта—паўтары Волхаўстроі.

1 кастрычніка таго-ж году пачнуць працаваць дзьве домны Кузьнецкага гіганта мэталюргіі, разьлічанага на штогодны выпуск 1.100 тысяч тон чыгуна. Адбудаваньне гэтага заводу азначае выкананьне пастановы 16 партзьезду аб утварэньні новай індустрыяльнай базы на Усходзе.

1 сакавіка 1931 г. пушчан Беразьнікоўскі хэмічны камбінат. Гадавая вытворчасьць хэмічных заводаў першай чаргі гэтага камбінату—30 тыс. тон высокаканцэнтраваных угнаеньняў для сельскай гаспадаркі

1 ліпеня пачне працаваць Харкаўскі трактарны завод, які павінен выпускаць штогод 50 тыс. трактараў для саўгасных і калгасных палёў.

У 1931 годзе будуць скончаны работы першай чаргі на Сібірскім камбайнбудзе з праграмай у 15 тыс. камбайнаў, 35 тыс. трактарных сеялак і 30 тыс. трактарных сенакасілак штогод. Харкаўскі трактарны завод забясьпечвае трактарамі Украіну і чорназёмную паласу РСФСР. Прадукцыя Сібкамбайна прызначаецца для Сібіру і Казакстану. Для зернавых раёнаў Ніжняй і Сярэдняй Волгі будуецца Саратаўскі завод камбайнаў, які таксама будзе скончаны у 1931 годзе і дасьць 20 тыс. камбайнаў у год.

1931 год, гэта—год паступовага пуску цэхаў Уральскага гіганта машынабудаўніцтва—Уралмашбуда. У першыя гады сваёй работы завод дасьць па 100 тыс. тон прадукцыі ў год, у наступныя—150 тыс. тон. У канцы 1931 году будзе пушчан Краммашбуд, які будзе даваць штогод 150 тыс. тон гатовых мэталічных вырабаў.

1 красавіка 1931 году зьнята рыштаваньне з Уралмедбуда, які павінен даваць краіне штогод 10—12 тыс. тон медзі. 1 жніўня пачынае працаваць Ніжагародзкі аўтамабільны завод з вытворчай праграмай у 140 тыс. грузавых і паўгрузавых машын штогод.

1 кастрычніка канчаецца будаўніцтва Ленінградзкага алюмініевагага заводу з вытворчай праграмай 6 тыс. тон алюмінія штогод.

Прыводзімы сьпісак прадпрыемстваў далёка няпоўны. Ня прыведзена зьвестак аб уступаючых у строй электрастанцый, прадпрыемстваў вугальнай, тэкстыльнай, харчовай, лесахімічнай і шэраг другарадных галін прамысловасьці.

Гэта—посьпехі, якіх краіна дабілася дзякуючы правільнай лініі партыі, энтузіязму і гэраічнай барацьбе рабочае клясы.

Трэці год пяцігодкі правільна названы рашаючым. У гэтым годзе сіламі савецкага пралетарыяту будуць пушчаны першыя гіганты сацыялістычнай прамысловасьці.

1931 год зьяўляецца годам далейшага падвышэньня матар'яльнага і культурнага ўзроўня жыцьця працоўных.

Рост сацыялістычнага сэктару народнай гаспадаркі адбываецца шпаркім павялічэньнем колькасьці рабочае клясы. Калі ў 1931 годзе мы мелі індустрыяльнага пралетарыяту 7.442.000 чалавек, а ўсіх асоб наёмнае працы 14.196.000 чалавек, дык у 1931 годзе маса індустрыяльнага пралетарыяту ўзрастае да 8.868.000, а ўсіх асоб наемнае працы будзе 17.200.000. У 1931 годзе мяркуецца ўцягнуць у вытворчасьць 1 600.000 жанчын.

Сур'ёзьнейшы зрух утворыцца ў 1931 г. і ў росьце заработнай працы. Зарплата прамысловых рабочых узрастае на 6 проц., транспартных на 8 проц. У выніку гадовы фонд зарплаты ўзрасьце з 12.541 мільён р., да 15.344 мільёны руб., або на 22,4 проц. Мы будзем мець далейшы рост асыгнаваньняў на ўсе галіны і органы кіраўніцтва, якія абслугоўваюць інтарэсы рабочых. На кадры, культуру, сацыяльнае забесьпячэньне, ахову здароўя ў будучым годзе будзе выдаткавана 6,5 млдр. рублёў супроць 5 мілдр. мінулага году. Палаўляючая частка гэтых сродкаў будзе накіравана на абслугоўваньне інтарэсаў рабочых.

Разам з гэтым бюджэт сацыяльнага страхаваньня ўзрасьце да 2.100 мільёнаў р. супроць 1.600 млн. руб. мінулага году.

Програма жыльлёвага будаўніцтва вымяраецца сумай звыш 1 мілдр. руб. супроць 480 млн. руб. мінулага году.

Снабжэньне прамтаварамі ўзрасьце з 11,5 на 14,6 млрд., гэта значыць на 26,9 проц.; снабжэньне сельска-гаспадарчымы таварамі таксама ўзрастае. І ўвесь розьнічны зварот будзе на 25 проц. больш.

Выкананьне грандыёзнай праграмы патрабуе мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы, патрабуе рашучай перамогі нямінуючых на шляху цяжкасьцяй.

Скончыліся разгаворы нашых ворагаў, што „пяцігодка—гэта не ажыцьцявімы брэд бальшавікоў, спэцыяльна вызначаны для прапаганды“. Усё часьцей і часьцей у лягеры ворагаў раздаюцца галасы, поўныя трывогі і ізумленьня перад нашымі дасягненьнямі. Былы на працягу многіх год на чале ангельскага ўладу Лойд-Джорж у сваім артыкуле заявіў:

„Камуністычныя правадыры ўзяліся за ажыцьцяўленьне пляна, які па свайму аб'ёму і значэньню перавышае ўсё, што знала гісторыя ў галіне вялікіх і сьмелых прадпрыемстваў. Праекты Пятра Вялікага ў параўнаньні з плянам Сталіна нікнуць у сваёй нязначнасьці. Сталін бярэцца абсталяваць навейшымі фабрыкамі, машынамі і арудзьдзямі вытворчасьці Расію, якая больш усёй Эўропы і адначасна арганізавана хужэй усіх эўропэйскіх краін. Уся сельская гаспадарка вялізарнейшай краіны, у якой пануе прымітыўнейшая форма гаспадараньня, павінна быць мэханізавана.

Шахты, фабрыкі, тэкстыльныя прадпрыемствы ўжо ўзьніклі.

Зараз уся справа ў сельскай гаспадарцы, калі ўдасца дабіцца посьпехаў і тут, дык камунізм уступае ў круг ідэй, ажыцьцяўленьне якіх даведзена і якія таму павінны быць прыняты ў сур'ёз народнай гаспадаркай і соцыяльна-дасьледчай навукай. Магчыма, што вялічэзным вынікам будзе тое, што ў гэтым выпадку Расія сваім вялізарным насельніцтвам—усё найлепшы баявы матар'ял—стане аднэй з багацейшых і разам з тым, аднэй з самых магутных краін. Сіяцельны круг Лігі нацыі з высокамерным сьмехам адхіліў прапанову Расіі прыступіць да ўсеагульнага разброеньня ўсіх дзяржаў. Калі, аднак, Расія з сучасных цяжкасьцяй выйдзе адукаванай, больш багацейшай і лепш арганізаванай краінай, дык якім ракавым гукам прагучыць гэты сьмех для нашых дзяцей?“

У той час, як буржуазея з няскрываемай трывогай глядзіць у вочы наступіўшаму 1931 году, які пагражае паглыбленьнем эканамічнага крызісу і новымі сацыяльнымі ўскалыхненьнямі, мы бадзёра і ўпэўнена ідзем да перамогі сацыялізму ў нашай краіне. Але нашы посьпехі будуць нямінуюча выклікаць супраціўленьне клясавага ворага.

Тав. Куйбышаў у артыкуле, прысьвечаным пэрспэктывам трэцяга году пяцігодкі, паказаў:

„Выкананьне плянаў 1931 году нямінуюча будзе праходзіць ва ўмовах упартага супраціўленьня астаткаў капіталізму (кулакоў, нэпманаў і шкоднікаў) унутры савецкага саюзу, ва ўмовах, калі ня спыняецца ліхаманкавая падрыхтоўка капіталістычнага сьвету да ўзброенай інтэрвэнцыі.

А менавіта таму неабходна максымальная мабілізацыя творчых сіл рабочае клясы, калгасьнікаў і ўсіх працоўных на перамогу цяжкасьцяй, якія стаяць перад намі, на замацаваньне абароназдольнасьці краіны, на пасьпяховае выкананьне народна-гаспадарчага пляну рашаючага трэцяга году пяцігодкі.

Барацьба за Ленінскую генэральную лінію партыі, барацьба на два фронты: супроць правага апартунізму як галоўнай небясьпекі і супроць „левых“ загібаў—вось аснова ўсёй далейшай барацьбы за сацыялістычную перабудову нашай краіны. 1931 год зьявіцца магутнейшым крокам уперад, дасьць новыя перамогі справе сацыялізму“.

„К. Н“

**КРАТА Ў БЕЛАРУСІ ШМАТ ВА ЎСІХ РАЁНАХ. АРГАНІЗОЎВАЙЦЕ БРЫГАДЫ МОЛАДЗІ НА ЛОЎЛЮ КРАТА**

# Мільён скурак крата за вясеньні сэзон

## Вясеньняя загатоўка пушніны пад пагрозай

У № 3 „Паляўнічы Беларусі“ за гэты год ужо пісалася аб тым, якую важную ролю адыгрываюць вясеньнія пушныя нарыхтоўкі ў нашым агульна-дзяржаўным бюджэце.

Пісалася таксама і аб тым, што гэтыя вясеньнія пушныя нарыхтоўкі павінны адбывацца, галоўным чынам, за кошт крата, бадзячага сабакі і пацука. Зьвярталася ўвага на выкананьне і перавыкананьне плянаў вясеньніх пушных нарыхтовак райтаварыстваў.

У № 4 „П. Б.“ яшчэ раз напаміналася аб гэтай задачы, пастаўленай усёй савецкай грамадзкасьцю перад паляўнічай каапэрацыяй і паказваліся тыя шляхі, якімі лягчэй за ўсё дасягнуць добрых вынікаў.

Адпаведнымі загатаўцелямі вышэйпаказаных відаў пушніны, г. зн Пушнасіндыкатам, Дзяржгандлем, паляўнічай і спажывецкай каапэрацыяй былі своечасова даны дырэктывы і паказаньні па сваёй пэрыфэрыі. Дзяржгандаль, нават разаслаў асноўным загатаўцелям краталоўкі. Гэтыя краталоўкі былі атрыманы і паляўнічай каапэрацыяй і разасланы на месцы—у райтаварыствы, паляўнічыя ячэйкі і г. д.

Нарыхтаваць мільён скурак крата на Беларусі—вось задача, якая стаіць перад паляўнічай каапэрацыяй.

Між тым ня ўсе раённыя таварыствы паляўнічых уявілі сабе гэту задачу. Аб гэтым паказвае становішча нарыхтовак пушніны на сёньнешні дзень! Аб гэтым гаворыць тое, што толькі 16 раённых таварыстваў паляўнічых далі „Белкахотсаюзу“ зьвесткі аб ходзе пушнінных нарыхтовак. З іх 9 раёнаў паказваюць лічбы на 1 мая, а апошнія 7 толькі на 10 мая.

Паданыя лічбы гэтымі раённымі таварыствамі прымушаюць біць трывогу, прымушаюць нас біць па тых, хто зрывае пушныя нарыхтоўкі і нават не падае зьвестак, як ідуць пушныя нарыхтоўкі, каб своечасова папярэдзіць прарыў. Паданыя лічбы з 16 раёнаў сьведчыць аб тым, што ня ўсе раённыя т-вы ўзяліся за выкананьне плянаў, што нарыхтоўка крата ідзе слаба, трохі лепш—сабака. Між тым цікава адзначыць, што адначасна з кратом і сабакам—паляўнічымі здаюцца заяц, і лісіца, ня гледзячы на тое, што паляваньне на гэтых зьвяроў закрыта з 15 лютага і ня гледзячы на тое, што пляны і зімніх нарыхтовак ня былі выкананы! Ужо гэта адно паказвае, што пушніна асядае ў паляўнічага, у насельніцтва і раённыя т-вы павінны быць гібкімі, павінны паставіць сваю работу так, каб выкачаць ад насельніцтва ўсю здабытую пушніну.

Мы ні ў якім разе ня можам сказаць, што пляны нарыхтоўкі крата, бадзячага сабакі і інш. у летні пэрыяд нерэальны. Крата на палёх Беларусі шмат і знайсьці яго па нарытых кучках зямлі вельмі лёгка, з гэтым спрачацца ніхто ня стане і мы павінны выканаць і перавыканаць пляны, трэба толькі арганізаваць гэтую справу.

Асабліва тут можа шмат чаго зрабіць паляўнічыя каапэрацыя. Паляўнічы, як маючы вядомы навык па лоўлі зьвера, як выўчыўшы промысел за ім, як чалавек, бліжэй стаячы да прыроды, чым іншы, скажам, гарадзкі жыхар, рэдка бываючы ў полі і ў лесе і няведаючы прывычак зьвера, лягчэй за ўсё можа заняцца арганізацыяй промыслу здабычы крата. Ён ведае яго прывычкі, ведае, дзе ён больш за ўсё бывае ў вядомы час, ведае як лепш за ўсё навесьці пастку на гэтую жывёлу, а таму яму і лёгка здабываць крата і мець вядомае падспор'е для свайго бюджэту.

Нават больш таго! Калі паляўнічаму няма часу, ці так якая-небудзь прычына мяшае заняцца гэтым промыслам, ён можа навучыць лавіць крата сваю сям'ю—дзяцей і г. д.,—а гэта вельмі лёгка яму зрабіць, маючы танныя краталоўкі, якія ён можа набыць у т-ве паляўнічых. Трэба

раённым т-вам толькі зацікавіць яго гэтым.

Тым больш лягчэй здабываць крата таму, што гэты зьвярок усюды ёсьць і промыслам на яго можа заняцца амаль любы паляўнічы, нават гарадзкі. Крот плодзіцца ўсюды: у садох, у гародах, на сухіх сенажацях, наогул там, дзе ён толькі можа быць і пракарміцца. А хто ня знае нарытых кучак зямлі кратом? І вось, калі-б кожны паляўнічы ўзяўся за гэтую справу, апроч таго, што ён прынёс-бы вялікую карысьць дзяржаве скурамі кратоў—меўбы за лета нейкую сотню рублёў да свайго бюджэту. А паляўнічых у нас 30.000! Якую колькасьць могуць гэтыя 30.000 даць пушніны?—Вельмі вялікую.

Тав. Сідарэнка з Брагінскага раёну ў часопісу „П. Б." № 1 за 1931 г. у артыкуле „Як лавіць кратоў" апісвае, як паляўнічы Канавальчык зацікавіўся промыслам кратоў, атрымаў ад Сідарэнкі краталоўкі і заняўся гэтай справай. Спачатку яму гэта не ўдавалася, але, прылаўчыўшыся настаўляць краталоўкі, за адзін тыдзень ён стаў здабываць па 100 кратоў, што складае 50 рублёў на грошы.

Гэта паказвае на тое, што пры жаданьні і правільнай пастаноўцы гэтай справы, разгарнуўшы кампанію вакол нарыхтовак крата—аб чым ужо ня раз адзначалася ў часопісі—мільён скурак мы зможам нарыхтаваць.

Асабліва лёгка гэтага дасягнуць пры сучасных умовах, калі—і загатоўчыя арганізацыі ідуць на сустрач паляўнічаму, здабываючаму і здаючаму крата, выплатай 25 проц. кошту пушніны дэфіцытнымі таварамі. Гэта мае вялікае значэньне і раённае таварыства, правільна выкарыстаўшае прэміяльныя фонды, павінна даць і дасьць пушніну.

Наогул-жа ў наяўнасьці ёсьць усе магчымасьці выканаць пляны пушных нарыхтовок. Калі мы мелі прарывы ў пушных нарыхтоўках у зімні перыяд і маем іх зараз—у нарыхтоўцы крата, сабакі, тхара і пацука,—дык гэта сьведчыць толькі аб тым, што ў шмат якіх раённых таварыствах слабае кіраўніцтва, спадзяваньне на самацёк, была апартуністычная практыка. Тым больш аб гэтым сьведчыць тое, што разам з кратом, праз тры месяцы з лішнім пасьля зачыненьня паляваньня ідуць такія віды пушніны, як заяц, ліс, зімні воўк. Гэта ўтварылася, як было адзначана раней, ад таго, што менавіта ня былі выкарыстаны ўсе магчымасьці пры загатоўках, ня было разгорнута сацспаборніцтва, ударніцтва, ня было падворнай зборкі пушніны, не гаспадарча „разбазарваліся" паляўнічыя прылады.

Трэба сказаць, што і па іншых арганізацыях, загатаўляючых крата ён ідзе кепска. Мне прышлося ў прыватнай гутарцы гаварыць з прадстаўніком Пушнасындыкату т. Марозавым. На пытаньне: „Як ідуць нарыхтоўкі", адказаць ён нічога станоўчага ня мог.—„Няма ніадкуль зьвестак. Цяжка сказаць, як ідуць нарыхтоўкі!"

Усё гэта паказвае на тое, што мы павінны біць трывогу па выкананьні плянаў пушных нарыхтовак. Мы павінны разгарнуць шырокую масавую работу ў гэтым напрамку і патрабаваць ад раённых т-ваў паляўнічых падачы зьвестак аб ходзе нарыхтовак. Кожная ячэйка паляўнічых, піянэрскі атрад, школы і камсамольскія арганізацыі павінны папулярызаваць ідэю здабычы крата. Рённыя т-вы паляўнічых, а таксама зьвеньні спажывецкіх каапэрацый і іншыя, арганізацыі, на якіх ускладзены нарыхтоўкі крата, павінны правільна выкарыстаць прэміяльныя фонды, вылучаныя на нарыхтоўкі.

Кожны паляўнічы, кожны грамадзянін павінен ведаць, што здабыча пушніны прэміруецца ў разьмеры 25 проц. дэфіцытнымі таварамі з агульнай сумы за пушніну, а калгасы і раённыя нарыхтоўшчыкі Пушнасындыкатам прэміруюцца грашыма звыш платы ў разьмеры да 100 рублёў.

Мільён скурак крата ў гэты вясеньні сэзон—вось наш лёзунг, вось наша задача. Пляны мы павінны выканаць і перавыканаць.

**М. Ц.**

# Узьняць тэмпы выкананьня дагавароў

## Даць дзяржаве на 330 тыс. руб. пушніны

Даныя ўрадам заданьні па нарыхтоўцы пушніны на 1 квартал па сыстэме паляўнічай каапэрацыі ня выкананы. Доўг пушніны дзяржаве натуральна перайшоў на другі квартал. У гэтым квартале павінен быць ліквідаваны прарыў першага кварталу і выканана заданьне другога кварталу.

Зараз, калі ўводзіцца новая крэдытная рэформа трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на сваячасовае заключэньне дагавароў, на загатоўку пушніны і мяса дзічы. Такім чынам апрача, так сказаць, маральнай адказнасьці, кожнае раённае т-ва паляўнічых нясе і матар'яльную адказнасьць за выкананьне плянаў. У пэрыяд май—сьнежань мы павінны нарыхтаваць на 330.000 р. пушніны. Першая дэкада мая, на жаль, не дала сур'ёзных вынікаў у гэтай рабоце. Тут прычына крыецца выключна ў нежаданьні і няўменьні арганізаваць некаторымі райтаварыствамі справу пушных нарыхтовак. Нарыхтоўка вясеньніх відаў пушніны, напрыклад, крата, у раёнах, дзе справа арганізавана, устаноўлен кантакт з піянэрскімі і камсамольскімі арганізацыямі, правільна выкарыстоўваецца прэміяльны фонд, вядзецца сыстэматычна праца з удзельнікамі збору аб карыснасьці збору і г. д. і г. д.; дзе пляны давездены да кожнай ячэйкі, да асобнага паляўнічага дык калі нават судзіць па папярэдніх лічбах, плян будзе выканан і нават перавыканан.

Такім чынам, мы бачым, што агаворкі некаторых раённых работнікаў на „аб'ектыўныя ўмовы" адпадаюць: уся справа ў пастаноўцы работы, у адносіне працаўнікоў райтаварыстваў да гэтае справы.

Сучасны момант патрабуе найхутчэйшага пераключэньня на баявыя тэмпы работы літаральна ўсёй нашай сыстэмы, шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва між паляўнічымі ячэйкамі, самімі паляўнічымі, піянэрскімі атрадамі і школамі. Трэба памятаць, што даны гадавы плян павінен быць выканан у тэрмін, які паказан ў дагаварох.

**Аксельрод.**

Ад рэдакцыі. З гэтага нумару ход пушных нарыхтовак будзе асьвятляцца ў нашым часопісу сыстэматычна.

**Рэд.**

**ЛЕПШЫМ АРГАНІЗАТАРАМ ЛОЎЛІ КРАТА БУДУЦЬ ВЫДАНЫ ГРАШОВЫЯ ПРЭМІІ.**

**ЗАРАЗ-ЖА ДАВАЙЦЕ ЗЬВЕСТКІ АБ АРГАНІЗАЦЫІ ЛОЎЛІ КРАТА І АБ ЯГО ЗАГАТОЎКАХ І АТРЫМАЕЦЕ ПРЭМІЮ. ПРЭМІІ ВЫДАЮЦЦА ЗАРАЗ-ЖА ПА АТРЫМАНЬНІ ЗЬВЕСТАК.**



# Паляўнічая практыка

## Дупель

Ці займае дупель першае або другое месца ў групе бекасоў (слонка, бекас, гаршнэп) як аб'ект паляваньня, разьбірацца ў гэтым ня буду (бо ў смаках не спрачаюцца), хай разьбяруцца самі паляўнічыя. Мая мэта сказаць аб дупеле, як аб аб'екце паляваньня наогул і пазнаёміць паляўнічага з асаблівасьцямі гэтай птушкі.

Калі ўсякі паляўнічы ведае дупеля, так сказаць, з знадворнага яго боку, дык можна з упэўненасьцю сказаць, што не ўсякі ведае яго нораў, прывычкі і асаблівасьці. Нават і знадворны бок дупеля ня раз прыводзіць паляўнічага ў неўразуменьне. Выпадкі невыключныя, калі паляўнічы, прыгожа зьбіўшы бэкаса (асабліва ўвосень) аўторытэтна даводзіць аб здабычы дупеля і раскаенна маўчыць, калі пакажаш сапраўднага дупеля, узятага тут-жа на яго вачох або дома і давядзеш пры параўнаньні з чучалам. Гэта бывае ня толькі з паляўнічым-гаражанінам, але і з паляўнічым вёскі.

Дупель на самай справе вельмі падобен да бекаса і пер'ямі, і складам; і іх не адразу пазнаеш, калі ня зьвернеш увагі на велічыню і ня ўбачыш афарбоўку пер'яў пад жыватом, якое ў дупеля ня белае, а шэра-рабае.

Вопытны паляўнічы, вядома, зразу адрозьніць дупеля ад бекаса ня толькі па яго параўнаўчай кароткай шыі і ножках, але і па дзюбе (дзюба ў дупеля і карацей і таўсьцей, чым у бэкаса), па зялёнаму колеру ножак і па рабаму апярэньню ніжняга боку крылаў (у бекаса ножкі цемнаватыя, амаль чорненькія, падбой або спод крыльляў шэраваты або сізавата-попельны), але ўзнае дупеля і па аднаму яго палёту. Пры ўзьлёце дупель каротка, адрывіста „фыркне" крыламі, звычайна па свойму кракне і, падняўшыся мэтры на 2—3 (рэдка вышэй) без уласных бэкасу мільхоў, пацягне па простай лініі і сядзе, і рэдка калі перад гэтым зробіць загіб у той ці іншы бок. Успугнуты дупель садзіцца ў травой пакрытае месца, праляцеўшы мэтраў 200, а то і 50 (калі не напалоханы) і прыліпне да зямлі, ня даўшы сьледа.

Хаця дупель зьяўляецца балотнай птушкай, аднак ён ня так ужо любіць вільготныя месцы, як бекас і гаршнэп. Хутчэй насупраць—любіць больш сухія, толькі дастаткова потныя балоты. Рэдкі, кусьцісты беразьнячок па тарфяністай потнай плошчы, пакрытай густой, але нявысокай травой—асноўнае, трэба прызнаць, месца дупеля пры нармальных умовах.

Лішак вільгаці, у выніку вялікіх дажджоў, або якіх-небудзь іншых прычын, звычайна прымушае дупялей пакідаць тыя месцы, дзе яны трымаліся доўгі час. Асабліва любіць дупель перакачоўваць з роднага балота на адкрытыя месцы, калі маладняк дойдзе да крыла. Тут ён застаецца і надоўга, сабіраючыся па некалькі вывадкаў разам, на адкрытых потных сенажацях, дзе стаялі стагі прошлагодняга сена. Гэтыя старыя стажар'і вабяць да сябе дупялей вялікай колькасьцю карма; у такіх мясцох можна знайсьці дупялей па 10—15 штук, на плошчы якіх-небудзь 80 мэтраў у квадраце.

Ва ўмовах сытнага прывольнага жыцьця ня доўга прыходзіцца быць дупелю. Пачынаецца, пара сенакоса. Зьвініць каса, работаюць граблі, не змаўкаюць чалавечыя галасы, зьяўляюцца сабакі, дупелю тут ужо ня месца. Ён перабіраецца ў збожжавыя палі, дзе і знаходзіць сабе небясьпечнае месца. Аднак, кармоў дупелю тут нямнога, бо яго слабая дзюба не прыстасавана да таго, каб калупацца ў сухой і цьвёрдай зямлі пашні, але дупель прадугледзіў гэта: балотцы і ручайкі ў яго тут-жа, каля збожжа. Ня доўга дупель у пакоі і тут. Наліліся жоўтае жыта і ячмень. Зноў зьявіліся людзі на нівах з сярпамі, жнейкамі, касілкамі. Дупель зноў сьпяшаецца знайсьці сабе ціхае месца. Больш моцныя купнаватыя балоты — зараз служаць яму месцам

жыцьця, пакуль не адрасьце атава на скошаных ранейшых прывольных мясцох.

Наогул жа выбар дупелем месца для свайго прабываньня цалкам залежыць ня толькі ад часу пасьпяваньня траў і збожжа, але ад стану лета і восені. У дажджлівы год, калі потныя сенажаці робяцца топкімі, непраходнымі балотамі, балоты авёрамі і г. д.,—дупеля знойдзеш на лясной палянцы, і на высокім месцы сенажаці, у асаблівасьці, калі на іх пападаюцца някошаныя мясьціны і на балотцы сярод лесу. Усе летнія пералёты дупеля знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад умоў кармавых месц. Корм дупеля—уськія казюлькі, вусьні, чарвякі, сьлізьні і расьліны: найбольш сакавітыя, кволыя і маладыя пабегі траў і карэньняў. Жыруе дупель пераважна ўначы, удзень ён любіць трымацца на некармавых, сухіх і небясьпечных мясцох, а нанач абавязкова пакідае іх і выбіраецца на кармёжку на потныя сенажаці, балотцы і г. д., дзе і застаецца да раньня. Толькі ў вельмі-вельмі цёплую пагоду ў поўдзень бескарысна шукаць дупеля ў тых мясцох, дзе ён звычайна праводзіць дзень.

У палове жніўня *) дупелі перасяляюцца зноў у вялікія балоты і там, разам з бекасамі, застаюцца да адлёту, які заўсёды бывае на многа раней бекасінага.

### Вывад птушанят

У палове мая, а бывае і пазьней, але наогул, калі падрасьце трава і прыкрые леташнюю нескась, дупяліныя самкі садзяцца на гнёзды. Гняздо дупеля вельмі простае: самка звычайна выкапае невялікую ямку, дзе-небудзь на купіне, пакрытай малодзенькай траўкай, накідае ў ямку сухой травы і лісткоў і гняздо гатова. Вырасшая трава—надзейнае прыкрыцьцё ня толькі ад чалавека, але і ад зоркага вока пярнатага драпежніка. А то ня бывае і гэтага прыгатаваньня: птушка карыстаецца проста натуральным паглыбленьнем на купіне або на бугарку, зрабіўшы толькі падсьцілку з сухой травы і лістоў.

Дзякуючы сваёй афарбоўцы знайсьці дупеля ў гняздзе вельмі цяжка, бо самка сядзіць на яйках вельмі моцна; настолькі моцна, што можна злавіць у гняздзе яе рукамі, калі падыходзіць памалу, бяз шуму.

Лік яек у дупеля ніколі ня бывае больш 4; менш здараецца. Па колеру і форме яйкі сходны з бекасінымі, толькі больш прапарцыянальна велічыні самой птушкі. Асноўны фон афарбоўкі яек вар'іруе ад бледна шэравата-охрыстага да бледнага буравата-охрыстага і па фону густа-раскіданы цёмна і сьветла-бурыя плямкі, і фіялета-бурыя, і шэра-блакітныя. А то па фону бываюць у невялікім ліку раскіданы рысачкі.

Птушаняты выводзяцца праз 17—18 дзён пасьля занясеньня апошняга яйца. Дзіўныя птушаняты: як толькі выклюнуліся, у той-жа дзень пакідаюць гняздо і ня рэдка з прыліпшай яшчэ на сьпіне яечнай шалухой.

Дупеляты ў пуху вельмі сходна з бакесятамі і толькі вопытнае вока можа адрозьніць гэтых двух птушанят адзін ад аднаго. У дупелят дзюба карацей, чым у бекасят, але гэтая адзнака ўлавіма толькі пры параўнаньні двух птушанят адначасна. Першы час пасьля вываду маладыя трымаюцца заўсёды паблізасьці маткі і ніколі не адыходзіць далёка ад гнязда, пакуль ня дойдуць да крыла, але як толькі маладняк пачне трохі лётаць, увесь вывадак перасяляецца з крэпі ў больш адкрытыя месцы. Наогул маладыя пачынаюць лётаць тыдні праз 2—3 пасьля вываду, а праз 4—лётаюць ужо добра. Усе клопаты аб выхаваньні маладняка кладуцца выключна на матку. Як і глушэц, цецярук, качар, так і дупель ня ведаюць сям'і. Яны палігамы, усё апошняе іх не датычыць.

### Паляваньне з легашом

Згодна дзейнічаючаму паляўнічаму законадаўству паляваньне на дупялей дазваляецца з 1-га жніўня. К 1 жніўню старыя дупялі канчаюць лінку, а маладыя настолькі пасьпеюць, вырастуць, што цяжка пазнаць маладога дупеля ад старога, асабліва пры беглым аглядзе; пры больш падрабязным — лягчэй, але для гэтага трэба мець нямалы паляўнічы вопыт.

Дупель сядзіць вельмі моцна, добра вытрымлівае стойку сабакі, блізка падпускае да сябе паляўнічага ў сьпякоту, ды і падымаецца на крыло без ахвоты,

---

*) Ва ўсіх выпадках час трэба лічыць па старому стылю.

аяніва. У больш халодную пагоду, а таксама раніцай і ўвечары дупель становіцца некалькі асьцярожным, але калі ён не напалохан стрэламі, амаль заўсёды падпускае да сябе даволі блізка.

Дупель любіць грамаду і рэдка калі бывае адзін у тым або іншым падыходзячым месцы балота. У большасьці находзіш дупялей цэльнай кампаніяй, хаця і ў некаторай адлегласьці адзін ад аднаго. Таму, знайшоўшы аднаго дупеля трэба пачаць дакладна шукаць з сабакамі тут падыходзячае для яго месца. Які-б ня быў вопытны і добры і з добрым нюхам сабака, паляўнічы не павінен пакладацца на якасьць яго, а ўвесь час кіраваць ім, сачыць за пошукам, імкнучыся не пакінуць ніводнага не абшуканага месца. Дупель, як ужо было сказана, сядзіць моцна, у выніку чаго лягавы сабака з шпаркім ходам і невялікім нюхам, прычым яшчэ гарачы, будзе нямінуючы праскакваць міма дупеля тут-жа ў 2—3 кроках. У такіх выпадках трэба іці не сьпяшаючыся, накіроўваць сабаку па магчымасьці супроць ветра, у крайнім выпадку, каб вецер быў бакавы і каб сабака быў увесь час на вачох. Трэба іці зыгзагамі, па крутых дыяганалях, шчыльна шукаючы ўсе дупяліныя мясцы (вопытны паляўнічы бачыць адразу такія месцы), не шкадуючы ўласных ног — толькі ў такіх выпадках і будуць пажаданыя вынікі.

Дупель вельмі любіць ізумрудную зелень атавы. Добра ня помню, але ва ўсякім выпадку мне было ня больш 10—11 год. Жнівень канчаўся. Цёплы сонечны дзень. Сонца павярнула з поўдня. Іду з старым паляўнічым, найлепшым стралком. Выжла доўга не радуе нас. Зялёны кавёр атавы пакрыў луг. З аднаго бока тут-жа зьмейкай круціцца рэчка, з другога — набегла купністае тарфяное балота. Апісаўшы кола значнага разьмеру выжла раптоўна замёр уперадзе, у 2—3 кроках ад нас. Каманда: „уперад...!“ і толькі адзін крок сабакі — „фіркнуў“ дупель. Тлустым, цяжкім комам шлёпнуўся дупель у атаву кроках у дваццаці... Сабака стаіць. Сарваўся другі. Як зачараваны стаю я, хаця меў двохрульную шампалоўку і мог страляць ужо у лёт, аднак стаю ў ролю гледача. Стойка за стойкай. Мой стралок, тарапліва стукаючы затворам сваёй бяскуркоўкі — дваццаткі жывапісна здымае дупялей то справа, то зьлева, то сьзераду. Гадзіны не прайшло, трафей — 30 штук дупялей. Толькі талерачкі на стэндзе, усьлед за камандай „падай!“, вылятаюць так, як тут вылятали дупялі. І гэта на плошчы ў 200—300 квадратных мэтраў, у самай рэчцы. Чаруючы паляўнічага малюнак так і застаўся ў маёй памяці на ўсё жыцьцё. Столькі шмат дупялей на такой невялікай плошчы мне ніколі ня прыходзілася бачыць (было гэта ў былой Пскоўскай губ., Апочыцкага павету, у 3 кілёмэтрах ад граніцы Віцебскай губ.).

У Рэчыцкім павеце, былой Віцебскай губ. на граніце Курляндзкай (зараз Латвія) ёсьць вялізарнейшае возера Лубань. Берага — тарфяністыя, беспадобныя дупяліныя мясцы. Нешта падобнае там толькі прышлося сустрэць майму бацьку. І дупель там быў мясцовы. Стральба па дупелях амаль заўсёды вельмі лёгкая. Дупель падымаецца недалёка, пераважна на чыстым месцы, як я ўжо гаварыў, ляціць роўна, без уласных бекасу вількоў і не нэрвуе паляўнічага.

Бываюць выпадкі, калі дупялі чамусьці вельмі напалоханы і падымаюцца ня ў меру. У такіх выпадках раю падыходзіць к дупелю ня супроць ветра, а па ветру. Справа ў тым, што дупель, як і другія птахі ў сільны вецер падымаюцца на чыстым месцы супроць ветру. Сабаку і паляўнічага дупель, вядома, заўважыць раней, але, баючыся ўзьляцець па ветру (асабліва, калі вецер моцны) або супроць ветра, насустрач паляўнічаму, дупель падпусьціць паляўнічага на стрэл, а то і зусім блізка, узьляцеўшы толькі тады, калі другога выхаду ня знойдзе. Прыстасаваньне такога спосабу паляваньня за дупелямі, асабліва ў сільны вецер, у большасьці канчаецца посьпехам, хаця страляньне дупеля ў такіх умовах куды цяжэй, чым у ціхую пагоду.

Страляньне па дупелю бясспрэчна лёгкае (і ляціць роўна і мішэнь даволі вялікая) здавалася-б, што кожны дупель будзе біты, абы толькі ўзьляцеў, на самай-жа справе па дупелю мажуць ня толькі стралкі сярэдняй рукі, але першакласныя, толькі дзіву даешся. Тлумачыцца гэта вельмі вялікай гарачнасьцю паляўнічага. Але стоіць толькі ўявіць сябе

ў рукі—дупель будзе зьбіты і сярэднім паляўнічым.

Лепш за ўсё страляць па дупелех, адпусьціўшы крокаў на 25—30 і нават да 40 крокаў. Стрэл на больш блізкай адлегласьці заўсёды значна цяжэй: тут і страляць прыходзіцца шпарчэй і цэліцца трэба шчыльней, бо на блізкай адлегласьці ўбойнае кола шроту вельмі невялікае. Няма патрэбнасьці і адпускаць дупеля далёка: у такіх выпадках магчым аблёт яго шрацінамі набоя ды і прыцэльваньне на такой адлегласьці цяжэй, асабліва калі ёсьць кусты. Наогул няма патрэбнасьці сьпяшацца страляць па дупелю і браць яго на ўскідку, як, напрыклад, бекаса або вальдшнепа сярод кустарніка. Часу заўсёды хопіць браць з павадка і выцелеўшы добра, мёртва і чыста пакласьці яго на адлегласьці, паказанай вышэй. Ды і страляць у большасьці прыходзіцца ў угон, пры добрым сабаку. Моцная стойка. Сарваўся дупель у 6-7 кроках і цягне над сьпелым аўсом „Тах-тах"—раздаецца тараплівы дубальт майго кампаньёна. Дупель ідзе. Не сьпяшаюся, даю стрэл. Анучай шлёпнуўся дупель аб траву. Лічым,—80 крокаў! Стралок, заўсёды ведаючы сваю дасканальнасьць перад мной і якасьць сваёй стрэльбы, стыдліва чырванее перад мной, хлапчуком і маёй двохрульнай шомпалкай, якая славілася найлепшым боем. Наадварот, кучнасьць шротавага набою будзе кепска адбівацца пры страляньні дупялей на блізкай адлегласьці або зусім разьбіваць птушку. Вострасьць, добрая осып і сталасьць боя,—вымаганьні, якія павінны мець стрэльба пры паляваньні на дупялей. Але ўсё гэта пры ўмовах магчымасьці, ў праціўным становішчы ўсякая стрэльба годна па дупелю.

Дупялей страляюць большай часткай тым-жа шротам, якім і бекасоў, г. зн. № 9. Але лепш страляць № 8 ангельскага ліку. Больш буйны шрот будзе разьбіваць дупеля, і на вялікай адлегласьці абносіць яго.

Калі-ж дупялі сільна напалоханы, не падпускаюць бліжэй, чым на 50 крокаў,—можа быць пушчан у справу шрот № 5. Але гэты шрот пры нормальных умовах не па дупелям. Дупель вельмі слабы на рану, а таму ўпаўне дастаткова прыстасоўваць пры страляньні шрот пакаганых нумароў, г. зн. 8 і 9.

### Паляваньне без сабакі

Ліпень. Апошнія дні вельмі цягнуцца. Ня церпіцца. Ня церпіцца і „Марсу". Інстынктыўна адчувае выжла скоры пачатак паляваньня. Усё так сказаць, у баявым становішчы. Раптам „Марс" як камень у воду. Поездам увезьлі. Жыў я тады пры станцыі, чыгункі. Што рабіць? „Валетка"—найлепшы сабака, вазьмі—раіць мне таварыш (не паляўнічы). Найлепшы „Валетка" сыгналізуе сваім серпападобным хвастом аб прысутнасьці птахі, а стойкі ня робіць. Вока незважу з „Валеткі": сачу за „сыгналам". На шворцы ходзіць „Валетка". Сыгнал!—у тую-ж мінуту канец шворкі ў руках. Так і паляўнічаю. Але, калі „Валетка" адчувае з грахом папалам сьлед цецярука і белай курапаткі, дык нюх яго ніяк не бярэ дупеля.

Папаліся высыпкі... Іду з таварышом. Мэтраў 7—8 тонкая аборына волакам ідзе па траве між намі, прывязаная да нагі кожнага з нас.—Спосаб такі мёртвага падыме!—гаворыць мой таварыш, пастрэльваючы па дупялёх. Не даставала толькі званочкаў, якія ў такіх выпадках прывязваюцца да абароны. Вядома, што такі спосаб магчым у тых выпадках, калі паляваньне ўтвараецца на зусім адкрытых мясцох, па кустох прайсьці з аборыны і думаць нечага.



А хто застрахаваны ад такога выпадку, у якім апыніўся я ў сэзон паляваньня.

Аб спосабе прыстасаваньня аборыны нечага было гаварыць, але хай будзе што-небудзь, чым нічога, калі застанешся без сабакі.

### Высыпка дупялей

Высыпкі дупялей звычайна пачынаюцца ў канцы жніўня. Высыпкі бываюць мясцовых дупялей і пралётных. Першыя з іх—вынік перакачоўкі дупялей і масавага іх зборышча ў адным і тым жа балоце, сенажаці і г. д., другія—з часовымі астаноўкамі пралётных дупялей для адпачынку і кармежкі. Першыя па часу высыпкі мясцовых дупялей пачынаюць тады, калі дупеля выганяе з збожжавых палей жніво і прымушае іх уцякаць на балота. Дупеля можна аднесьці да птушкі грамадзкай. Ён любіць грамаду. Таму, як толькі падрастуць маладыя дупялягы—іх можна знайсьці на потных лугах у масавым скапленьні на параўнаўча невялікай адлегласьці. Старыя стажар'і—звычайныя мясцы скапленьня дупяліных вывадкаў, прыцягнутых вялікай колькасьцю карма. Мясцовыя дупялі ня зьбіваюцца ў стайкі, а заусёды трымаюцца на сваіх балотах у разброд. Дупелі ўпарта трымаюцца аблюбленага месца і толькі настойлівае прасьледваньне чалавека прымушае высыпку разьбіцца, разьляцецца па ўсіх балотах навокал, звычайна партыямі па 5—10 штук. Знайшоўшы такую партыю трэба абыйсьці з сабакамі усе падыходзячыя месцы, куды-б маглі забрацца дупялі.

Прылётны дупель ледзь трымаецца тых ці іншых месц, таму прасьледваньне яго не адбіваецца на яго колькасьці: замест забітых і сагнаных з аблюбленых месц прылётных дупялей уначы зьяўляюцца новыя. Трэба заўважыць, што маршрут прылётнага дупеля ідзе амаль у адным і тым-жа напрамку, таму, дзе высыпалі перадавыя пралётныя дупялі, там будуць і высыпкі і ў часе іх валавога пралёту. Маршруты пралёту дупялей вельмі сталыя з году ў год. Толькі раптоўная зьмена прыродных умоў мясцовасьці (як асушка, затапленьні, распашка, пажары) могуць зьмяніць маршрут дупялей.

Шпаркасьць і раптоўная зьмена пагоды, якая адбылася ўсьлед за зьяўленьнем перадавікоў, можа павесьці да таго, што дупеля ў часы валавога пралёту будуць высыпаць на зусім другіх мясцох, чым перадавікі, або нават выбяруць зусім іншую мясцовасьць для сваіх высыпак. Высыпкі пралётнага дупеля бываюць ня больш двох тыдняў. Пачаўшыся каля 15 жніўня к 1 верасьня высыпкі спыняюцца: дупель уляцеў.

### Адлёт дупялей

Адлёт дупялей ідзе выключна ноччу. Ціхая жнівеньская ноч. Гараць і пераліваюцца яркія зоркі на чорным небе. Урачыста і прыгожа (гаворачы словамі паэты) тады на дварэ. Цяпло змагаецца з холадам, але ты яшчэ сядзіш на прызьбе ў адной куртцы. Мімаволі задумаешся. Раптоўна думка абарвана, слых паймаў знаёмае, рэдкае краканьне над самай галавой. Не прайшла і мінута разьвітальны голас птушкі далёка паляцеў на поўдзень і замёр да... вясны. І думаеш: у якія нязьведаныя краі імкнецца гэта птушка? Перасекшы ў некалькіх мясцох Сярэдземнае мора дупялі зьбіраюцца на вімоўку ў паўднёвую Афрыку, дзе і застаюцца да сярэдзіны лютага прыблізна.

Аб дакладным месцы прабываньня дупялей на зімоўцы, аб іх жыцьці там, аб іх пакоі, мне ня прыходзілася чытаць у нашай паляўнічай літаратуры, ды наўрад ці ёсьць што пра гэта і ў замежнай літаратуры. Цяпер, калі паляўнічыя арганізацыі Эўропы і Азіі вядуць шырокае акальцаваньне птушак наогул, імкнучыся такім чынам выявіць пралётныя шляхі птушак, трэба думаць недалёк той час, калі паедуць спэцыяльныя экспэдыцыі на месца зімовак птушак, для вывучэньня на мясцох іх жыцьця, аб прыгатаваньні да адлёту і аб часе адлёту да нас. Неабходнасьць у гэтым даўно насьпявае.

(*Працяг у наступным нумары*).

**Лялін.**



# Зьверагадоўля

## Енот і яго разьвядзеньне

У ранейшыя далёкія часы скуркі енотаў у Амэрыцы цаніліся так нізка, што нават рэдка паступалі на рынак: іх часта выкарыстоўвалі для вырабу жаночых галаўных убораў. У сучасны момант каштоўнасьць іх павысілася на столькі, што пабуджае паляўнічых лавіць іх дзе толькі можна і якім толькі можна спосабам. Вынікам гэтага стала тое, што лік енотаў значна зьменшыўся ва ўсіх частках Амэрыкі і там прыняты меры да папаўненьня пушных запасаў гэтага зьвера. Уперад шкуркі енота выраблялiся і афарбоўваліся так, што былі падобны на мех мядзьведзя, ількі, куніцы, рысі і іншых доўгашэрсных зьвяроў. За апошнія гады мех енота ішоў для ўпрыгожваньня жаночых гарнітураў і для спартыўных мэт, так што зараз другія доўгашэрсныя мяхі пры афарбоўцы імэціруюць енота.

Не адна пушная жывёліна не здабываецца так пасіленна паляўнічымі ўсякіх катэгорый, як енот. Паляваньне на яго ноччу з сабакамі і з агнём—вельмі распаўсюджана ў Амэрыцы. Пры начных паляваньнях разбураюцца норы і гнёзды енота. Падвойна зьнішчаецца прыродны запас енотаў ад лову яго і ў працэсе паляваньня дзеля спорту, што стала прычынаю трывожнага памяншэньня яго гадавой здабычы.

Попыт на жывых енотаў для разьвядзеньня іх на мех і для папаўненьня яго племяннога запасу пабудзіў шмат каго разводзіць енота ў няволі. Вялікі лік устаноў, якія ведаюць аховай зьвяроў, разводзяць енотаў у гадавальніках з мэтай папаўняць імі апусьцеўшыя мясцовасьці. У Амэрыцы штогод уводзіцца вялікая колькасьць енотаў для паляўнічага спорта. Усё вышэйсказанае дало штуршок да разьвядзеньня яго ў гадавальніках.

Магчыма, у няволі будзе нявыгадна пладзіць енотаў на мех, калі корм для іх трэба купляць на рынку?



Енот.

### Біолёгічная асаблівасьць енота.

Енот (Procyon) вельмі вядомы і ім мусіць больш цікавяцца, чым якім-небудзь іншым пушным зьверам. Гэтая невялікая крэпка складзеная жывёла, з хвастом, па пушыстасьці напамінаючым хвост вавёркі. Яго заднія ногі па сваёй пастаноўцы падобны на ногі мядзьведзя. Пальцы яго пярэдніх лап доўгія і добра разьдзелены, што дае яму магчымасьць карыстацца імі таксама, як карыстаюцца сваімі лапамі малпы. У Злучаных Штатах еноты распаўсюджаны большай часткай у Паўднёва-Ўсходніх і Паўднёвых Штатах і ў ціхаакіянскіх. Яны жывуць па берагох рэк і азёр і там, дзе іх шмат, заўсёды ёсьць добра пратоптаныя імі дарожкі, на верхавінах паваленых дрэў або каля каменьняў, якія віднеюцца з вады заўсёды можна ўбачыць ускрытыя ракавіны молюскаў і іншыя сьляды іх прабываньня. Яны вельмі добра лазяць на дрэвы і звычайна

будуюць свае норы ў пустых дрэвах. У такіх мясцох яны робяць свае гнёзды, у якіх штогод вырашчваюць ад 4-х да 6 дзяцей. Хаця яны і карыстаюцца дрэвамі, але большую частку свайго жыцьця праводзяць на зямлі. Выпадкова яны бродзяць і днём, але можна сказаць, што яны амаль упаўне начная жывёла. Звычайна харчы енотаў складаюцца з ракушак, прэсна-водных ракаў, лягушак, чэрапах, птушак і яек апошніх; арэхаў, пладоў і зялёных злакаў. Калі еноты знаходзяцца блізка вады, дык яны заўсёды спаласнуць свой корм уперад, чым яго зьесьці. Еноты вельмі разумныя жывёлінкі і дзеці іх вельмі забаўныя. У няволі еноты вельмі любапытныя і з цікавасьцю разглядаюць усякі прадмет, асабліва, калі ён мае яркі колер ці блішчыць. На поўначы еноты халодную частку зімы праводзяць у сьпячцы, але на поўдні яны бродзяць круглы год.

### Выбар месца для гадавальніка

Усякае сухое, прыгоднае месца ці сядзіба ўпаўне падыходзяць для разьвядзеньня енота: бывае што іх зьмяшчаюць у горадзе на задніх дварох, але не пажадана і не практычна выбіраць падобныя месца для сталага прадпрыемства. Шмат цені і некалькі сонечнага сьвету неабходна даць для здароўя енота. З тае прычыны, што енот вельмі добра лазае, то ў клетцы павінна быць некалькі дрэў для гэтай яго патрэбы.

Для енотаў неабходна толькі піцьцявая вада. Клеткі іх могуць заставацца чыстымі доўга, калі яны пастаўлены на зямлю, пакрытую травой.

### Клеткі і хаткі

Еноты добра ўжываюцца ў няволі і іх лягчэй вырашчваць, чым якіх-небудзь іншых зьвяроў. Клеткі для іх трэба рабіць такога-ж тыпу, як і для лісіц, разьмерам у 24 футы даўжыні, 12 фут. шырыні і 6 футаў вышыні, сьцены і верх клеткі трэба зусім пакрыць драцяной сеткай № 16, з ячэйкамі у паўтары дзюймы. Сетку трэба апусьціць у зямлю на 6 дзюйм. або на зямлі ўздоўж сьцен разаслаць бардзюр шырынёй у 18 дзюйм. і яго замацаваць к бакавым сьценам і куткам, каб еноты не маглі падкапвацца пад сьцены. Замест таго, каб верх клеткі зусім пакрываць сеткай, можна зрабіць навес з гальванізаванага жалеза ў 2 футы шырынёй і замацаваць яго навокал да верхняга краю клеткі. У такім выпадку дрэвы можна пакінуць у клетцы, але яны павінны адстаяць даволі далёка ад сьцены клеткі, каб еноты не маглі ўзлазіць на іх і ўцякаць.

Хаткі з гнездавымі скрынкамі, якія выймаюцца і робяцца для лісіц вельмі падыходзяць для енота. Гнездавыя скрынкі можна зьмяшчаць і па-за клеткай, таксама як і ў лісіц. Хаткі і гнёзды пры такой пабудове лягчэй утрымліваюцца ў чыстаце, чым калі скрынкі знаходзяцца ўнутры клеткі. Пры пабудове клетак і домікаў трэба ўперад за ўсё мець на ўвазе зручнасьць жывёл і лёгкасьць чысткі іх клетак і хатак.

### Кармленьне енота

Еноты ядуць з карысьцю для іх розны корм. Яны вельмі любяць усякі сухі хлеб з малаком, кашы, звараныя з розных круп, да якіх прыбаўлена малако—вельмі ім па густу. Варанае мяса і мясныя крошкі, зьмешаныя з варанымі крупамі, таксама вельмі добры для іх, а салодкія фрукты для іх—вялікія прысмакі. Кашы з круп, зьмешаныя з мясам або з мясным бульлёнам або з малаком складаюць галоўны корм енотаў.

Еноты патрабуюць больш корма, чым лісіцы. Яны ядуць шмат. Дарослых кормяць адзін раз у дзень, лепш некалькі пасьля поўдня. Самак з дзецьмі і самых дзяцей трэба карміць два разы на дзень, раніцой і ўвечары. На поўначы, у лістападзе, перад наступленьнем халадоў трэба даваць ім корму больш, чым у другія месяцы, каб падрыхтаваць іх да зімняй сьпячкі. Калі ў часы сьпячкі яны выйдуць з хатак, іх трэба ў гэты час карміць. Нагул пры доглядзе за енотамі трэба прыстасоўваць усё тое, што робіцца і для іншых пушных зьвярэй. Не забываць аб сьвежай вадзе для піцьця; кармушкі і паілкі ўтрымліваць у бязумоўнай чыстаце.

### Разьвядзеньне

Для разьвядзеньня енотаў неабходна адбіраць толькі енотаў з зусім цёмным мехам. Парода чорных енотаў была атры-

мана ад разьвядзеньня толькі адборных зьвяроў. У енотаў цечка бывае толькі адзін раз у год і адзін брачны пэрыяд у год. Яны палігамны і адзін самец можа служыць двум і больш самкам. Калі іх утрымліваюць у аднэй клетцы, дык самцоў і самак трэба зьмясьціць разам у сярэдзіне лістападу. Бываюць спарваньні ў канцы студзеня, але большая частка іх падае на люты. Цяжарнасьць працягваецца прыблізна 63 дні і дзеці нараджаюцца ў сакавіку, красавіку аба маі. Часта ў памёце бывае 6 дзяцей, але ў сярэднім—4. Еноты могуць спарвацца і прыносіць дзяцей ужо на першым гаду жыцьця, але памёты ад маладых самак енотаў наогул менш і слабей за памётаў ад дарослых.

### Догляд за енотам

Мэтады кармленьня і разьвядзеньня енотаў тыя ж, якія дапасоўваюцца і для лісіц. Лепш рэкомэндуецца аддзяляць самцоў ад самак каля 1 сакавіка, бо самка можа ўхажываць за сваімі дзецьмі добра без дапамогі самца. Самку трэба карміць вельмі сытна некалькі дзён пасьля таго, як нарадзіліся дзеці. І іх пакідаюць з маткай да таго часу, пакуль яны добра падрастуць і пачнуць есьці ўсякі корм. У гэтыя часы іх адсажваюць у асобную клетку.

Енотам даваць толькі самы сьвежы і здаровы корм. У халодны час году, на працягу 3 тыдняў або месяцу, няма неабходнасьці карміць іх, бо гэты час яны праводзяць у сьпячцы. Рэкамандуецца аглядзець гнездавую скрынку праз некалькі дзён пасьля нараджэньня дзяцей, каб бачыць, як яны растуць і каб убраць мёртвых, калі такія ёсьць.

Енотаў можна перамяшчаць з аднаго месца на другое з дапамогаю скрынкі або клеткі, адбудаваных для гэтай мэты.

**Вл. Як. Генерозаў.**

---

# Насьпеўшая праблема

Пасьпяховае выкананьне пяцігадовага пляну ў чатыры гады ў значнай ступені залежыць ад сыравінных рэсурсаў краіны. Між тым мы так злачынна неэканомны да ўласнай сыравіны, што мільёны рублёў валюты выкідаем на вецер. Партыя і ўрад паставілі мэтаю перад нашай краінай—дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, і зможам мы гэтага дасягнуць, як гаварыў Ленін, шляхам вялізарнейшай эканоміі ў нашай гаспадарцы. Толькі такім чынам мы атрымаем магчымасьць выкарыстаць усе ўнутраныя рэсурсы для разьвіцьця нашай сацыялістычнай гаспадаркі.

Наша мылаварная прамысловасьць перажывае востры недахоп тлустасьцяй, нашы нівы патрабуюць угнаеньня, наша жывёла і птушкі ня маюць дастаткова корму, а мы штогод зьнішчаем дзесяткі тысяч прадуктаў, якія могуць значна палегчыць вырашэньне ўсіх праблем. Справа ў тым, што мы ня поўнасьцю выкарыстоўваем усе адкіды паляўнічага промыслу, якія могуць даць значны эфэкт нашай краіне і, ня гледзячы на ўсё гэта, намі не выкарыстоўваюцца тушы забітых зьвяроў і жывёлы, якія могуць даць мінімум 5 проц. высокакаштоўных тлустасьцяй, для мылаварнай прамысловасьці і 20 проц. мяса-касьцяной мукі высокага кармавога значэньня з агульнай вагі жывёл. Нарэшце трэба, каб прызналі неабходнасьць арганізацыі гэтай справы ў кожным раёне, для гэтага патрабуюцца зусім невялікія сродкі на абсталяваньне такіх топак тлустасьцяй. Раённым таварыствам паляўнічых трэба павесьці шырокую растлумачальную кампанію сярод паляўнічых. „Белкохотсаюзу" ўстанавіць інструктаж мясцамі. Выпрацаваць грашовую аплату за здаваемыя тушкі жывёлы.

У гэтае лета вызначаецца нарыхтаваць вялікую колькасьць кратоў. Трэба памятаць, што пры вядомай канцэнтрацыі збору тушак у адным пункце можа наогул даць добрыя вынікі, што і сьцьвярджаецца з маёй асабістай практыкі выцягненьне тлустасьцяй з падобных жывёл (сусьлікаў). Ёсьць пэўная падстава і надзея на гаспадарчую мэтазгоднасьць гэтае справы. Неабходна толькі ажыцьцяўленьне яе паскорыць адпаведна з тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. **А.**

# Сабакагадоўля

## Гутарка з маладым паляўнічым*).

### Аб пародзістасьці і перадачы палявых якасьцяй па насьледзтву

Ня гледзячы на тое, што, як перад гэтым гаварыў мой малады знаёмы, што на другі дзень у яго вячэрніх заняткаў няма і ён можа больш доўгі час гутарыць са мной, у гэты дзень я яго не дачакаўся. Ня прышоў ён і на трэці і нават на чацьвёрты дзень. Толькі на пяты, вярнуўшыся дамоў з паездкі ў цэнтр гораду, я застаў яго каля дзьверы майго запёртага пакою. Відаць даўно мяне чакаў ён.

— Дзе-ж вы прападалі?—сустрэў я яго. Я ўжо стаў прывыкаць да вашых штодзённых наведваньняў, а сёньня мне неабходна было пабываць ва „Всекохотсоюзе".—Вы даўно мяне чакаеце?

— Так каля гадзіны. Можа мы пагутарым? Справа ў тым, што я ўвесь час быў заняты і ня мог зьявіцца да вас, а потым мяне запрасіў адзін таварыш на паляваньне. Зайцоў знайшлі шмат, ганялі цэлы дзень амаль бяз скола. Вось, як вы апісвалі—сапраўдныя верхачуты! Іх чатыры сабакі, чорнабуланых англа-рускіх. Між іншым, што я кажу чатыры сабакі, вярней па паляўнічаму два смычкі, ну, вы выбачайце. Усе сабакі з поўнай радаслоўнай і мне здаецца, гэта галоўны задатак іх работы. Як вы думаеце?

— Зусім з вамі згодзен і скажу проста, што толькі пародзісты сабака можа быць сапраўдным „майстрам" і перадаваць свае высокія палявыя якасьці патомству.

— Так, вось якраз, у першае маё наведваньне я быў зачапіў гэтае пытаньне, але ня было часу аб ім перагаварыць. Зараз я стаўлю яго такім чынам: па-першае—што называецца пародай? па-другое—што такое сабака пародзісты? урэшце, які ўплыў пародзістасьці на патомства? Зараней вас папярэджваю, што буду слухаць і маўчаць.

— Добра. Пастараюся наколькі змагу задаволіць вашу любазнацельнасьць і асабліва задаволен сам вашым апошнім абяцаньнем.

— Добра, слухаю і маўчу!

— Ну, дык вось. Уперад за ўсё, што называецца пародай? Жывёла, называемая сабакай, распаўсюджана па ўсёй зямлі. Ёсьць шмат відаў гэтай жывёлы, кожная з іх прыстасавана да вядомай работы на карысьць чалавеку. Адным з такіх відаў і зьяўляецца ганчак, які ўжываецца для таго, каб знаходзіць і гнаць зьвера пры дапамозе прысвоеных яму: нюху і голасу да таго часу, пакуль ён ня будзе тым ці іншым спосабам узят чалавекам або даведзен прасьледваньнем да поўнай стомленнасьці і злоўлен самім ганцом. Гэты від сабакі, як і другія віды, падзяляюцца на шмат парод.

Канкрэтна пародаю сабакі можна назваць агульнасьць адзнакаў, як знадворных, так і ўнутраных, якія характарызуюць вядомы тып, стала і нязьменна перадаюцца ў патомства. Устойлівасьць і нязьменнасьць адзнакаў ёсьць нямінуючая ўмова замацаванай пароды сабак.

Кожная асобная парода ганчакоў носіць сваю асобную назву, якая даецца ёй па той краіне, дзе яна культывіруецца, так што атрымліваюцца асобныя групы сабак пад назвай: рускіх, ангельскіх, францускіх і г. д. Але гэта толькі зьбірацельная назва, а потым кожная з іх з гэтых груп падзяляюцца яшчэ, на так званыя падпароды, якія прымаюць назву або ад вядомай мясцовасьці якой-небудзь краіны або ад прозьвішча тых спэцыялістаў ці сабакаводаў, якія гэты тып сабак вывелі і замацавалі на столькі, каб усякі знаток сабак мог без памылкі сказаць, што гэты экзэмпляр належыць да такога-та тыпу.

У нас часта паляўнічыя мяшаюць тэрміналёгію і называюць асобныя тыпы пародаю. Так, напрыклад, з рускіх сабак яны называюць пароды можараўскіх або

*) Глядзі „П. Б." № 4 1931 г.

аляксееўскіх і г. д., калі на самай справе гэта ўжо не парода, а толькі тып або падпарода.

Устанавіўшы, такім чынам, што такое пароды, можна перайсьці і да наступнага пытаньня, пастаўленага вамі, што такое сабака пародзістая і кроўная?

Кроўнай сабакай называецца той, у якога цячэ кроў якой небудзь адной пароды бяз прымесі крыві другіх парод. Так, напр., кроўны рускі ганчак не павінен утрымліваць у сябе хаця б малейшую частку крыві ангельскай або францускай і г. д., г. зн. павінен паходзіць толькі ад кроўных рускіх ганчакоў. Парукай у гэтым павінна служыць яго радаслоўная або запіс аб яго паходжаньні выключна ад рускіх сабак, хаця б і розных тыпаў. Чым старэй, г. зн. далей назад вядома паходжаньне сабакі, тым ён, вядома, кроўней і тым настойлівей перадае ён як надворныя, так і нутраныя якасьці сваёй пароды.

Такім чынам, кроўным або, лепш сказаць, чыстакроўным ганчаком мы павінны прызнаваць толькі асноўныя пароды, напр., рускую, як прадстаўніцу тыпа ўсходніх ганчакоў і Губерта, як сабак ад якіх вывеліся ў большасьці сваёй сабакі заходнія.

Усе ўтвораныя або штучна выведзеныя пароды ўжо ня будуць чыстакроўнымі, а толькі чыстапароднымі, як напр., можна паказаць на нашу англа-рускую гончую і руска-польскую. Чыстата іх пароды можа таксама пацьвердзіцца радаслоўнымі, але гэтыя радаслоўныя сьведчаць толькі паходжаньне ад пародных ганчакоў, але не чыстакроўнасьць.

Пад уплывам клімату, мясцовасьці, падбору вытворцаў, спосабаў паляваньня і асабліва віду зьвяроў на паляваньні, за якімі яны пераважна ўжываюцца і ўрэшце нават якасьць корму, чыстакроўныя ганчакі па большай частцы мяняюць свае надворныя і нутраныя якасьці. З асаблівай яркасьцю мы можам гэта бачыць на заходнім ганчаку, які мае, ня гледзячы на сваю чыстакроўнасьць, вялізарную колькасьць парод, якія зьявіліся выключна дзякуючы вышэйпамянёным прычынам.

Здавалася-б, што калі гэта так, дык усякі чыстакроўны ганчак мог-бы прыгадзіцца і да клімату, і да мясцовасьці, і да спосабу паляваньня, а таксама быць нагоненым па ўсякаму зьверу і навошта было мяшаць асноўныя пароды між сабой і нават падліваць гончым крыві другіх іншых відаў, напр., бульдога, як гэта рабілі ангельцы. Справа тут вельмі складаная і прычын гэтаму шмат. Я павінен толькі паказаць галоўныя. Першае і самае галоўнае—гэта нямінуюча наступаючае выміраньне пры вельмі сканцэнтрыраванай крыві. Выміраньне, якое выяўляецца ўперад за ўсё ў зьмене сілы сабакі, потым розных недахопах цела, якія памяншаюць яго работаздольнасьць і ўрэшце ўсёй яго псыхікі. Асабліва ў апошнім выпадку, наколькі мне прышлося ўпэўніцца на практыцы, з наступленьнем выміраньня трацяцца вельмі каштоўныя якасьці ганчака—злоснасьць. Гэта абставіна дужа сказалася на рускіх ганчаках.

Другая прычына—поўная адсутнасьць у данай асноўнай пароды тых надворных ці ўнутраных якасьцяй, якія патрэбны для гэтай мясцовасьці і якія практыкай нажыты быць ня могуць. Напр., кроўныя польскія ганчакі вельмі ня любяць гнаць лісіцу і тут нечага нельга зрабіць з імі—гэта зьявішча іх інтэнсіўнай агіднасьці да гэтага зьвера, што і прымусіла шмат якіх паляўнічых прыліць ім: адным—кроў рускіх ганчакоў, а другім—ангельскіх фоксгаўндаў. Гэта і выправіла недахоп польскіх ганчакоў.

Урэшце трэцяя прычына і я пакуль гэтым абмяжуюся,—гэта імкненьне некаторых паляўнічых вывесьці свой тып сабак, упаўне іх здавальняючы па свайму знадворнаму выгляду і па рабоце ў поле. Жаданьне мець сабаку, непадобнага да тых, што маюць другія паляўнічыя і пры ўдачы лепшага за іх часта кіравала гэтай справай. Скажу проста, што хаця тут была некаторая доля фанабэрыі, але шмат якія сабакаводы на гэтым пакуль што заслужылі ад патомства ўпаўне дастойную славу. Укажу хаця-б на старога паляўнічага П. А. Беразьнякова, які ўтварыў англа-рускую пароду гончых і давёў яе да ўдасканаленьня як па знадворных формах цела, так і бяспрыкладнай злоснасьці да ваўкоў. Усе як чыстакроўныя, так і чыстапародныя ганчакі перадаюць свае знадворныя і нутраныя якасьці патомству і ня толькі станоўчыя, але і адмоўныя і апошнія, на жаль, па нейкай фатальнай прычыне—асабліва ўпарта. Пакажу на самы пагубны парок—скотніцтва, г. зн.

пал кідацца на свойскіх жывёл. Гэты парок часта замацоўваецца ў крыві вядомага тыпу сабак і ўпарта перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне. Яму былі падвергнуты шмат якія ідэальныя ва ўсіх іншых адносінах стаі ганчакоў. Вядома, пры крайняй асьцярожнасьці з такімі сабакамі паляваць было магчыма, але знаходзіцца пад пастаянным страхам за скандал, які можа быць учынен, зусім зьнішчае ўвесь смак паляваньня. Але гэта я сказаў між іншым. Наогул-жа насьледнасьць гэта ёсьць галоўны стымул, дзякуючы якому толькі і магчым прагрэс у справе сабакаводзтва. Той факт, што пераважнае паляваньне па якому небудзь зьверу разьвівае ў сабак асабліваю смагнасьць, а менавіта да гэтага зьвера, што гэтая смагнасьць перадаецца ў крыві патомству, як нельга лепш садзейнічае сабакаводу выводзіць патрэбных яму сабак, г. зн. больш за ўсё прыгодных для яго паляваньня. Тыя ганчакі, аб якіх вы мне гаварылі, што чулі на паляваньні з вашым таварышом, таму і гоніць добра, што мае поўныя радаслоўныя, і відаць, паходзяць па сваёй крыві ад добрых зайчатнікаў.

— Паглядзіце, аднак, якая гадзіна? Нешта я, ужо, здаецца, вельмі доўга гавару.

— У мяне няма гадзіньніка.

— Дык паглядзіце вунь на мой, ён вісіць над ложкам. Сам я без акуляраў ня бачу.

— Ого, палова дванаццатай! Бягу дамоў. Трэба яшчэ цэлую ведамасьць напісаць.

Ён хутка накінуў паліто, пацiснуў мне крэпка руку і зьнік за дзьвярмі.

**Н. Чэлешчаў.**

## Ваўкі крычаць

У „Паляўнічым Беларусі“ № 3, 1931 г. быў зьмешчаны артыкул „Ці крычаць ваўкі“, таму я хачу апавядаць адзін цікавы па гэтаму пытаньню выпадак.

У 1928 г. у Дрыбінскім р. в. Мікольск, у студзені месяцы адбылася аблава, на якой было абкладзена 2 ваўкі. Адзін параненый адным стрэлам воўк прарваўся праз цэп і выйшаў з абкладу, але прайшоўшы крокаў 200 зваліўся, а пасьля трох стрэлаў па ім быў узяты жывым. У рот ваўку ўсунулі кол, выцягнулі на дарогу і зьвязалі, каб лепш было несьці ў вёску.

Як толькі ўзялі ваўка на плечы, ён завыў працяжным і громкім тонам. Паляўнічыя былі вельмі зьдзіўлены, бо старыя паляўнічыя казалі, што воўк ніколі ня крычыць. Па дарозе ў вёску воўк часьцяком зацягваў сваю песьню, якая цягнулася, звычайна, 2 мінуты. Па-мойму гэтае завываньне ня было добраахвотным, гэта быў крык, бо, прынёсшы ваўка ў вёску, кожны селянін прыпамінаў сваю авечку ці жарабёнка і біў яго палкай па галаве, але воўк усё-ж такі завываў.

**Купцоў Ф.**

Ад рэдакцыі: Спрэчкі „Ці крычыць воўк“, узьнятыя на старонках маскоўскае паляўнічае часопісі „Охотник“ перакінуліся і на старонкі „Паляўнічы Беларусі“. Каб спрачацца па сутнасьці гэтага пытаньня і вырашыць яго канчаткова, трэба, перш-на-перш, устанавіць мяжу між крыкам і завываньнем ваўка, трэба даць цьвёрдае ўразуменьне, што такое „крычаў“ воўк і што такое „завываў“? Бяз гэтага нельга нават і весьці спрэчкі па гэтаму пытаньню, бо адзін, паведамляючы аб факце, піша — воўк завываў, а другі крычаў. І кожны па свойму праў, бо тут няма цьвёрдага ўразуменьньня (паняцьця) наконт крыку ваўка. З гэтае прычыны рэдакцыя часопісі „П. Б.“ лічыць спрэчкі па гэтаму пытаньню скончанымі.

**Рэд.**



# Набалеўшае пытаньне

Усе ўласьцівасьці паляўнічага сабакі— стойка, падводка, пошук выпрацаваны шляхам доўгай і ўпартай дрэсыроўкі і бязупынных практыкаваньняў з пакаленьня ў пакаленьне.

Паступова гэтыя ўласьцівасьці, набытыя ў выніку трэніроўкі, зрабіліся насьледнымі і, такім чынам, уласьцівы ўсякаму пароднаму паляўнічаму сабаку.

Для свайго поўнага выяўленьня паляўнічыя ўласьцівасьці патрабуюць разьвіцьця, якое дасягаецца дрэсыроўкай і натаскай.

Адсюль выцякае неабходнасьць і ў дрэсыроўцы і натасцы ўсякага сабакі, прызначанага для паляваньня.

Зусім гатовымі для паляваньня без дрэсыроўкі і натаскі сабакі ня родзяцца. Калі і гавораць пра наяўнасьць такіх экзэмпляраў, дык толькі таму, што ня кожны паляўнічы ясна ўяўляе сабе ўсе патрабаваньні, прад'яўляемыя да добрага паляўнічага сабакі.

Пасьпяхова дрэсыраваць сабаку, як і ўсякую другую жывёлу; можа ня кожны чалавек, а толькі чалавек з асобнымі рысамі характару.

Добры дрэсыроўшчык, акрамя любві да жывёл, павінен быць яшчэ ўраўнаважаным, г. зн. ня быць запальчывым, раздражняльным, павінен мець цярпеньне, такт, настойлівасьць і дакладнасьць.

Ня так часта сустракаюцца людзі, у якіх ёсьць гэтыя ўласьцівасьці, радзей— трыма і зусім рэдка—усімі пяцьмі. Вось чаму добрыя дрэсыроўшчыкі вельмі рэдкія.

Акрамя асобных якасьцяй характару, вопытаў і ведаў, якімі павінен валодаць дрэсыроўшчык сабак, неабходна яшчэ падыходзячае месца, наяўнасьць дзічы, вольны час—наогул цэлы шэраг умоў, ажыцьцявіць якія многім аматарам, поўнасьцю нагружаным службовымі і грамадзкімі работамі, не зьяўляюцца магчымым.

Гэтыя абставіны прымушаюць іх аддаваць сваіх сабак у дрэсыроўку і натаску прафэсыяналам-егерам.

Пасьля вайны і рэвалюцыі кадры дрэсыроўшчыкаў значна парадзелі. Чаму ў першыя гады бурнага разьвіцьця сабакагадоўлі — пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі ў дрэсыроўшчыках адчуваўся недахоп. За дрэсыроўку ўзяліся людзі, ня маючыя ніякіх ведаў у дрэсыроўцы. Даверлівасьць новага аматара-сабакавода, малавопытнага, была вялікая. Карыстаючыся ёю, бяссорамна пачалі ашукваць лоўкія людзі, псуючы яго сабак і тым адбіваючы ў яго ахвоту да сабакагадоўлі.



Ірляндзкі сэтэр.

Безнаказанасьць нядобрасумленных адносін адных стварае спакусу для другіх і справядлівасьць патрабуе адзначыць, што некаторыя і са старых майстраў натаскі пачалі таксама легкадумна адносіцца да сваіх абавязкаў. Сабак набіраюць для натаскі значна больш той колькасьці, якую можна натаскаць,—у выніку частка сабак застаецца не натасканай. Утрымліваюць іх у брудзе. Кормяць дрэнна. Дрэсыроўкай амаль не займаюцца (пры вялікай колькасьці сабак—не хапае часу), а галоўную надзею ўскладаюць на плётку, прыроджаныя паляўнічыя якасьці і шчасьце.

Мала хто з цяперашніх егераў бліскуча сапраўднай „клясычнай дрэсыроўкай". Такіх майстраў цяпер знойдзецца ня больш двух-трох.

Як ня дзіўна, але заняпаду мастацтва дрэсыроўкі спрыялі таксама і некаторыя судзьдзі палявых спрабаваньняў, паніжаючы патрабаваньні да паслухмянасьці спрабуемых сабак і завастраючы ўсю сваю

ўвагу на чуцьці, хуткасьці ходу і спосабе пошуку. На першы погляд яны нібы і правы. Толькі было-б у сабакі чуцьцё і добры ход, а паслухмянасьці заўсёды дабіцца можна. Быць можа, такая тактыка ў адносінах да аматараў, якія выводзяць сабак асабіста на палявыя спрабаваньні, правільна, але ласкавасьць у адносінах да сабак, вывадзімых прафэсіяналамі-егерамі, у корані няправільна. Яна вядзе да таго, што егеры перастаюць добрасумленна працаваць з узятымі на натаску сабакамі, набіраюць іх у недапусьцімай для аднаго егера колькасьці, разьлічваючы, што з большай колькасьці лягчэй знайсьці самародка, „нос“ якога ўсё акупіць, а астатнія сабакі як-небудзь пройдуць, толькі-б не пагналі.

А між тым, хто з аматараў ня ведае, цаною якіх лішэньняў для сябе і для сям'і купляецца магчымасьць вырасьціць шчанюка (асабліва ў Маскве). З якімі цяжкасьцямі копяцца грошы для ўплаты егеру і з якой нецярплівасьцю і надзеямі чакаюцца вынікі натаскі. І якім вялікім і горкім бывае расчараваньне пры няўдачы, якая так часта залежыць ад недобрасумленнасьці егера, амаль заўсёды праходзячай для яго безнаказана. А колькі бывае загублена такім чынам добрых экзэмпляраў сабак?

Кожную весну пачынаюцца клапоты гарадзкіх паляўнічых, маючых маладых сабак, аб падшуканьні для іх добрых дрэсыроўшчыкаў. Большасьць паляўнічых арганізацый ухіляюцца ад гэтай справы, прадстаўляючы самім аматарам прыватным парадкам дагаварвацца з егерамі. Урэшце толькі нямногія шчасьліўчыкі за дарагую цану прыстрайваюць сваіх сабак у надзейныя рукі, а астатнія ці павінны задавальняцца другасортнымі дрэсыроўшчыкамі і чакаць „нечаканасьцяй“, ці пакінуць сабак ненатасканымі, бо асабістая натаска сабак даступна далёка ня ўсім.

Таму неабходна пашырыць дзейнасьць Маскоўскай вопытнай станцыі лягавых сабак і арганізаваць пры ёй курсы падрыхтоўкі дрэсыроўшчыкаў.

Зразумела, пры ажыцьцяўленьні гэтай прапановы сустрэнецца шэраг сур'ёзных перашкод, з якіх першае—сродкі, але пры некаторым падтрыманьні нашай паляўнічай грамадзкасьці можна перамагчы ўсе перашкоды.

Наяўнасьць пры вопытнай станцыі курсаў дрэсыроўкі дасьць магчымасьць пашырыць наглядальную работу станцыі над паляўнічымі сабакамі, перавесьці гэту работу на дасьледчыя рэйкі і даць ёй новы напрамак, карысны ня толькі для паляўнічых, але і для навукі.

Ад рэдакцыі: Зьмяшчаючы гэты артыкул, які быў надрукаваны ў часопісе „Собаководство“ рэдакцыя, з аднаго боку, хоча папярэдзіць паляўнічую масу, каб яны не аддавалі ў навучэньне сваіх сабак абы каму, а з другога—каб „Белкохотсаюз“, урэшце, паклапаціўся аб паляўнічых сабаках, заняўся пытаньнем сабакагадоўлі і вырашыў яго разам з арганізацыяй курсаў-егераў. Тым часам ужо падымалася пытаньне і аб адчыненьні спрабавальнай станцыі лягавых! **Рэд.**



# Па таварыствах і ячэйках

## Б'ем трывогу

### Кіраўніцтва, якое абанкруцілася

Плешчаніцкае райтаварыства нічога ня робіць. Нават пасяджэньняў праўленьня і тых няма. Паляўнічай гаспадаркай ніхто ня цікавіцца, паляўнічыя ўгодзьдзе ад браканьераў і драпежнікаў не ахоўваюцца. На кожным кроку можна спаткаць бадзячага сабаку. Ніхто ня думае аб тым, што паляўнічая гаспадарка зьяўляецца часткай усёй нашай Сацыялістычнай гаспадаркі. Ёсьць выпадкі, што калі паляўнічы заб'е бадзячую сабаку ў полі, дык яму даюць наганяй адміністрацыйныя органы, а дайшоўшы да суда гэтая справа разьбіраецца так, што застрэліўшы сабаку паляўнічы нясе адказнасьць. Нагогул пануе такая думка, што зьнішчэньне бадзячых сабак—„ганебная сабачая справа". (Фактаў шмат).

Плешчаніцкае т-ва паляўнічых толькі тады і працуе, калі адбываецца паляваньне, будаўніцтвам гаспадаркі, аховай дзічыны зусім не займаецца. І бойка тады ідзе гандаль бояпрыладамі; калі адбываецца паляваньне, прадаюць усё налева і направа, і браканьер і паляўнічы—усе тады ўроўнены. А першых (браканьераў) за апошні час зьявілася вельмі шмат (Чаму, не? „Абетаваны край" для іх Плешчаніцкі р.! Рэд.). З браканьерствам тут ніхто не змагаецца, бояпрылады даюць таму, хто хоча паляўнічыць—абы стрэльбу меў, а там ён „вольны казак".

Яркім прыкладам гэтага можа служыць в. Прусавічы, дзе ёсьць да 10 браканьераў — бязбілетнікаў, якія бязьлітасна „зьнішчаюць" багацьце прыроды.

Быў такі выпадак: я спаткаўся з браканьерам і праз паўгадзіны тут-жа заявіў міліцыянэру, каб злавіць яго, але апошні не зьвярнуў аніякае ўвагі. (Гэты выпадак адбыўся ў в. Капусьніках, Ганцаўскага с. с.).

Ні ў адным сельсавеце да гэтага часу не арганізавана ячэйка паляўнічых, якая-б магла шмат чаго зрабіць па паляўнічай гаспадарцы.

Старшыня т-ва паляўнічых т. Гарбуль гаворыць:—„Мне і так РВК дае наганяй за працу ў раённым т-ве паляўнічых, так што я ўжо махнуў рукой на гэту справу".

Загадчык паляўнічай крамай т. Міхневіч атрымлівае 50 руб. пэнсіі, працуе адзін дзень ў тыдзень—аўторак, астатнія дні крама зачынена.

„Белкохотсоюзу" трэба прыняць належныя захады, каб паляўнічыя аб'яднаньні занялі належнае месца ў сацбудаўніцтве і каб адміністрацыйныя органы РВК і с-саветы ня толькі лічыліся з гэтымі аб'яднаньнямі, а і дапамагалі ім у барацьбе з браканьерамі і драпежнікамі. Трэба папулярызаваць сярод насельніцтва законы аб паляўнічай гаспадарцы і дабіцца, каб яны выконваліся.

Кіраўніцтва Плешчаніцкага Таварыства абанкруцілася, яно ня выконвала тыя задачы, якія партыя і ўрад паставілі перад паляўнічай гаспадаркай—яго трэба зьмяніць.

Плешчаніцкі раён мае добрыя ўмовы для разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі. Паставіўшы ў кіраўніцтва Таварыства працаздольнае кіраўніцтва, Плешчаніцкае паляўнічая гаспадарка па бальшавіцку выканае сваю вытворчую праграму.

**Падарожны.**

Ад рэдакцыі. Матэрыял аб працы Плешчаніцкага райтаварыства сыгналізуе аб тым, што „Белкохотсоюз" слаба кіруе раённымі таварыствамі паляўнічых. Плешчаніцкі раён зьяўляецца адным з багацейшых па дзічы і зьверу раёнаў Беларусі і пры добрай пастаноўцы работы можа нарыхтаваць шмат пушніны і дзічы, але ў выніку апартуністычнай практыкі, якая мелася ў рабоце кіраўніцтва, райтаварыства фактычна развалілася. РВК, Райкому КП(б)Б неабходна тэрмінова прыняць захады для аздараўленьня работы паляўнічага таварыства.

# Пераабраць праўленьня і рэўкамісію Полацкага райтаварыства

## Праверыць працу Межанскага і Бешанковіцкага

Добра працавала Полацкае райтаварыства да 1931 г., а вось з гэтага часу ўсё заціхла. Старшыня праўленьня з 20 лютага перайшоў на іншую працу, намесьнік старшыні зараз-жа падаўся ў „адстаўку", паседжаньняў праўленьня ня было аж з 9 студзеня. Старшыне было даручана адшукаць сабе намесьніка, але ён такі не знайшоў і да гэтага часу, і ўсёй працай кіруюць „самастойна" тэхнічныя працаўнікі, ну, вядома, і праца кульгае.

**Шыльда вытворчай працы—два трусы**

Дрэнна ідуць нарыхтоўкі, нічога ня зроблена па трусагадоўлі і толькі, як прыклад неабходнай „вытворчай працы" ці як шыльда, ходзіць у магазыне адзін трус чорнага колеру, ды ў канцэлярыі праўленьня—адзін блакітнага,—вось у гэтым і заключаецца „трусагадоўля" Полацкага райтаварыства.

А магчымасьці для разьвіцьця трусагадоўлі ёсьць вялізарныя—і месца добрае можна знайсьці для трусятніка і вытворцаў трусоў закупіць можна.

Члены праўленьня і рэвізыйная камісія не адчуваюць ніякай адказнасьці за працу свайго т-ва, бязьдзейнічаюць. Кіраўніцтва „Охотсоюзу" таксама не зацікавілася, і не праверыла, што робіцца ў паляўнічых з аб'яднаных полацкай арганізацыяй, якая налічвае 600 членаў і асабліва ў такі адказны момант, калі трэба па-ўдарнаму заняцца вырашэньнем задач: мабілізацыя сродкаў, веснавая нарыхтоўка пушніны і інш. У Межынскім і Бешанковіцкім т-вах справы таксама кепскія. **Інструктар.**

## Бязьлітасна змагацца з крадзежам сабак

У нас вельмі разьвіўся крадзеж сабак. Паляўнічыя арганізацыі і самі паляўнічыя мала зьвяртаюць увагі на барацьбу з гэтым зьявішчам, а некаторыя і зусім нічога ня робяць.

У паляўнічага Полацкага т-ва т. Лапенка Д. А. прапаў ганчак. Лапенка аб гэтым паведаміў Полацкае т-ва паляўнічых з паказаньнем прымет. Прайшоў некаторы час, а Лапенка так і не атрымаў ніякіх зьвестак. Толькі праз некалькі месяцаў ён пазнаў свайго сабаку ў гр. Крывенка Ўладзіміра Кастусёва, які пражывае ў Васілеўскім с. с., в. Сваццця. Крывенка ніякіх зьвестак аб сабаку ні ў райтаварыства, ні ў іншыя мясцы не даваў і сабаку ўтойваў.

Калі Лапенка зьвярнуўся да яго аб зьвярненьні сабакі Крывенка, як гэта кажуць, „заламіў цану" за пракорм і Лапенку ня было чым заплаціць.

Такое жываглоцтва яшчэ больш садзейнічае крадзежу і ўтойваньню сабак. „Белкохотсоюз" і раённыя т-вы паляўнічых павінны павесьці рашучую барацьбу з гэтымі зьявішчамі і вызначыць кару за гэта злачынства ў парадку саюзнай дысцыпліны.

Падобныя Крывенкі павінны зараз-жа выключацца з саюзу паляўнічых, з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі. Толькі добра ўдарыўшы па злодзеях можна пазбавіцца ад прапажы сабак.

**Нік.**

## Драпежніка і браканьера—вон з шэрагаў паляўнічых

Паляўнічы Бешанковіцкага т-ва Качан Пятрусь ня раз выключаўся з саюзу за хуліганства, за крадзеж і продаж пушніны прыватнікам. У гэтым годзе Качан П. уначы раскапаў норы барсукоў і лісаў і зьнішчыў іх жыхароў.

Трэба хутчэй пазбавіцца ад заядлага браканьера. **Жан.**

# Клясавы вораг выкрыт

## Ачысьцім шэрагі паляўнічых ад клясава-варожых элемэнтаў

У сучасны момант у Касьцюковіцкім т-ве паляўнічых ужо няма Ільіна. Т-ва аслабанілася ад яго кіраўніцтва. Сход паляўнічых аслабаніў яго ад старшынства, а пастановай праўленьня вычышчан зусім з паляўнічай каапэрацыі. Але ўсё ж такі неабходна сказаць аб кіраўніцтве гэтага клясавага ворага для таго, каб паляўнічыя масы—беднякі, батракі і серадняки зорка сачылі за работай сваіх паляўнічых арганізацый і ў іншых раёнах.

Ільін, хаця і не доўга старшынстваваў у Касьцюковіцкім т-ве паляўнічых, але яго лінію доўга будзе памятаць бедната, аб'яднаная ў т-ва, за тое кулакі гатовы паставіць яму помнік. Яны яго і прасунулі ў праўленьне т-ва, бо калі быў перавыбарчы сход, дык справа была пастаўлена так, што бедната ня была паведамлена аб сходзе.

А Ільін за гэта падзякаваў кулакам ды падкулачнікам. Пры рэвізіі т-ва ўсе праздзелкі Ільіна ўскрыты і выведзены на чыстую воду. Перш-на-перш была выяўлена растрата на 416 руб. Сабраныя сродкі на самалёт „Паляўнічы Беларусі" Ільін таксама клаў сабе ў кішэню. Расцэнкі на тавары ня было і яны прадаваліся па такой цане, што знаёмыя Ільіну кулакі плацілі дзешавей, чым беднякі. Такую лінію было асабліва лёгка праводзіць таму, што загадчыкам крамы была яго жонка, ну, а жонка, куды там! Ня дасьць у абіду свайго мужа. Рахункаводзтва вялося так, што выдаткавалася з правай кішэні, а прыбыткоўвалася ў леву. Рэвізійная камісія мінулага складу ня цікавілася гэтым пытаньнем, ня ўскрыла злачынствы, якія былі ў т-ве.

Члены рэвізійнай камісіі за сваю дзейнасьць зараз выключаны з т-ва.

Яшчэ ўвосень 1930 г. быў атрыман тавар для прэміраваньня сдатчыкаў пушніны, але гэты тавар ляжаў і гніў у краме аж да вясны. Гэта прынесла вялікія страты т-ву.

Нарыхтоўка пушніны праводзілася вельмі нядбайна. Сдатчыкам квіткоў аб прыёме пушніны не выдавалася, а запісвалася толькі на паперы, у якой, каб што зразумець, чорт галаву зломіць. Атрыманыя дэфіцытныя тавары на прэміраваньне сдатчыкаў пушніны не вядома каму выданы, калі каму-небудзь выданы!

Ячэйкі паляўнічых у раёне не арганізаваны і паляўнічыя ня ведаюць, што гэта за такія арганізацыі. За тое кулакі і сам Ільін ведалі, чаму непатрэбна ствараць ячэек...

Раён кішэў браканьерамі, а заявы паляўнічых, якія падаваліся па зьнішчэньні гэтага зла, клаліся Ільіным пад сукно. Забясьпечаны паляўнічыя боепрыладамі былі вельмі кепска. Тыя стрэльбы, якія перадаваліся т-ву для рэалізацыі райміліцыяй, Ільіным раздаваліся па свайму пагляду. Каапэраваньня беднаты ніякага ня было, ды навошта яму была бедната.

З усяго гэтага відаць, што сваёй „працай" Ільін меркаваў угробіць паляўнічую каапэрацыю Касьцюковіцкага раёну. Яму ўдалося пралезьці ў т-ва і падарваць яго моц. Ён добра ведаў, што яго дзейнасьць—пэўнае злачынства, але як клясавы вораг працягваў шкодзіць.

**Рэўкамісія.**

# Не клапоцяцца аб гаспадарцы

Астрашыцка-Гарадзецкае раённае т-ва не клапоціцца аб паляўнічай гаспадарцы. Сабакі бадзяюцца па ўсіх паляўнічых угодзьдзях. Ганчакі паляўнічага Мурашкі Данілы па цэлых днях ганяюць зайцоў, ловячы малых.

Паляўнічыя, якія пускаюць сваіх сабак на паляўнічыя ўгодзьдзі раённымі т-вамі паляўнічых павінны быць прыцягнуты да адказнасьці.

**Х—віч.**

# Старшыня Бялыніцкага РВК абараняе драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі

Бадзячыя сабакі прыносяць шмат шкоды паляўнічай гаспадарцы, бадзяючыся па мясцох, дзе плодзіцца дзічына. Але аднача́сна яны могуць прынесьці карысьць сваёй шкурай і тушай, якія ідуць на мыла і хугравіну. Паляўнічыя арганізацыі павінны ўзяцца за рашучае зьнішчэньне бадзячых сабак.

Але, вось, старшыня Бялыніцкага РВК не ўразумеў гэтага і ўзяў пад сваю ахову бадзячых сабак па свайму раёну. Ён ня прымае аніякіх мер супроць хуліганаў, якія робяць напады на брыгады паляўнічых, якія зьнішчаюць драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі. Брыгадзіры і цэлыя брыгады паляўнічых арыштоўваюцца, над якімі аднаго разу, хацелі ўчыніць самасуд? Сам старшыня, спаткаўшы брыгаду паляўнічых у м-ку Галоўчыне, даў загад міліцыі аб прыцягненьні іх да адказнасьці.

Мы патрабуем ад старшыні Бялыніцкага РВК дапамогі паляўнічым зьнішчыць драпежнікаў і браканьераў у Бялыніцкім раёне.

Галоўчынская брыгада:

**Тюльманкоў, Таргоншчан.**

---

# Будуем гаспадарку

**(Савіцкая паляўнічая ячэйка, Брагінскі р.)**

У нашай паляўнічай ячэйцы каля 40 сяброў. Старшыня ячэйкі—энэргічны хлопец. За 1931 г. зьнішчана каля 60 бадзячых сабак. Вясной праводзілася вялізарная работа за ахову прыроды. Паляўнічыя змагаліся супроць тых, хто зьбіраў яйкі птушак—качак і інш. Гэта работа ўчынялася арганізаваным парадкам, што дало яшчэ лепшыя вынікі: раней пытаньне абгаварвалася на агульных сходах ячэйкі, а потым паляўнічыя прыступілі да справы.

* * *

Ня ўсе толькі паляўнічыя нашай ячэйкі ўдзельнічалі ў пабудове дырыжаблю „Клім Варашылаў". Я ўношу 1 р. 50 к. і выклікаю на такую-ж суму наступных паляўнічых: Беразьняцкага В. М., Барана А. К., Лобача С. В., а таксама і астатніх паляўнічых нашае ячэйкі, якія яшчэ ня ўнесьлі на пабудову дырыжаблю „Клім Варашылаў".

**Загаранскі Ф. А.**

---

# Загінула шмат рыбы

Гэтая зіма была вельмі цяжкая для рыбы. З месц паведамляюць, што шмат рыбы загінула пад лёдам там, дзе ня было аддушын. Арганізацыі, якія ведаюць рыбнай гаспадаркай, не пацікавіліся гэтым пытаньнем і не зрабілі аддушын.

Наш карэспандэнт з Стара-Дарожскага раёну паведамляе, што на рацэ Арэса, каля пасёлку Гладкоўшчына Горкаўскага с. с. загінула пад лёдам амаль уся рыба. У некаторых затоках можна знайсьці зараз да 20 пудоў дохлай рыбы: самоў, язёў, ляшчоў і інш. Адзін знойдзены сом быў 1 мэтр. 90 сантымэтраў і заважыў каля 50 клгр.

Другі карэспандэнт з Бярэзінскага раёну піша ліст пад назвай: „Як у нас гінуць некалькі тон рыбы". Ён апісвае, што Сьвятліцкая арцель рыбакоў Бярэзінскага раёну нядбайна аднесьліся да вадаёму возера „Акунь", у якім задохлася некалькі тон рыбы. Карэспандэнт бачыць у гэтай справе злы ўмысел і зьдзіўляецца, як гэта да гэтага часу ня высьветлена гэта справа і вінаватыя не прыцягнуты да адказнасьці. **Ц.**

## Зьнішчылі драпежніка

Пасьля сільнай адлегі к вечару 7 красавіка стала падмарожваць, а на ноч выпаў сьвежы сьнег.

Раніцай 8 красавіка стары абкладчык Конан з в. Ісакі, едучы ў лес за драўмі, ўбачыў на дарозе ваўка. Конан, як гаворыцца, устрахнуў старыной і з дапамогай сына і яшчэ аднаго мясцовага паляўнічага, воўк быў імі абойдзен.

Дзякуючы блізкасьці горада (каля 7 клмтр.) шпарка арганізавалася аблава і воўк быў забіты, які аказаўся старой ваўчыцай.

**А. Лаўроў.**

# Множыць іх прыклад

## Паляўнічыя дапамаглі зайцам

На абавязку паляўнічых ляжыць ня толькі выкарыстоўваць багацьце прыроды, адстрэльваць зьвера і дзічыну, а і дапамагаць ім пладзіцца. Як вядома, шмат гнёздаў з яйкамі гіне ў весну ад паводкі, шмат застаецца ў залітых мясцох вадой і зьвера—зайцоў, лісаў і г. д. Там, дзе добра працуюць паляўнічыя арганізацыі, дзе паляўнічы актыў прымае захады, каб стыхія менш прынесла ўшчэрбу паляўнічай гаспадарцы. Вядома, гнёзды з яйкамі выратаваць па натуральных прычынах не пад сілу паляўнічым. Але зайцам, якія ў паводкі цэлымі дзесяткамі зьбіраюцца на выспачкі, незалітыя вадой, дапамагчы вельмі лёгка.

Такую работу прарабілі некаторыя з нашых паляўнічых ячэек у гэту вясну.

Так, паляўнічая ячэйка в. Кажушкі, Юрэвіцкага р. на Мазыршчыне ў час разьліву ракі Прыпяці на 6—7 кілёмэтраў зрабіла чатырохдзённы выезд на выратаваньне зайцоў, якія ўжо гінулі ў вадзе. Пры гэтых выездах было выратавана шмат зайцоў, з якіх адна цяжарная матка з кольцом у абодвых вухах з нітак, а другая мае на шыі падпружку з выразным надпісам „40".

Рэдакцыя зьвяртаецца з просьбай да тых, хто заб'е гэтых зайцоў, паведаміць часопіс аб гэтым, з паказаньнем дакладнага месца, дзе былі забіты зайчыхі.

**Ячэйка паляўнічых в. Кажушкі.**



# У КРАІНУ МАЛАДУЮ, РАСТУЧУЮ

Сотнямі прагных вачэй натоўп угля-даецца ў даль, чакае цягніка.

Здалёк далятае грукат колаў, потым абрывісты гудок. Хвіліна,—і грукат цягніка патануў у працяжных і радасных гуках Інтэрнацыяналу.

— Глядзі, глядзі, у тое акно... вунь Максімыч!..

— Ёсьць!.. прыехаў...

— Такі-ж самы, як і быў раней...

Яшчэ не пасьпеў суняцца цягнік, як Горкі, бадзёры і радасны, акідаючы гордым і пранікнёным поглядам натоўп, па-вольна выходзіць з вагона. Ён ня шукае знаёмых. Яго ўсе ведаюць, усім знаёмы. Бягуць наперад паглядзець яму ў твар, вітаць яго. Вось ён ідзе з натоўпам, па-беруч: Серафімовіч, Халатаў, усьлед: Гладкоў, Усевалод Іваноў, Урыцкі, групы беларускіх пісьменьнікаў, прадстаўнікі партыйна-камсамольскіх і грамадзкіх арганізацый, ударнікі з менскіх прадпрыемстваў. Натоўп, сьціскаючы Максімыча сяброўскім колцам, праводзіць яго да вагона: з акна Максімыч ласкава аглядае сабраўшыхся.

— Аляксей Максімыч! Чырвонасьцяжныя варашылаўцы і асабліва ўдарнікі брыгад твайго імя даручылі мне перадаць табе ўдарнае, баявое прывітаньне. Аляксей Максімыч! Рабочыя прасілі, каб я запэўніў вас, што мы і надалей пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі будзем упарта змагацца за выкананьне 3-га рашаючага году пяцігодкі, году завяршэньня пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканомікі, а таксама прасілі перадаць на ўспамін вось гэту газэту, з якой мы штурмуем нашы цяжкасьці.

Заметнае хваляваньне — радасьцю палаюць вочы Горкага.

— Дзякую! Малайцы!—паціскаючы руку, адказвае Горкі.

— Аляксею Максімычу — Буравесьніку Кастрычнікаўскіх заваёў—баявое чакіскае прывітаньне.—Ура! Ура!—Вітаюць чырвоныя прымежнікі.

### Ня жыцьцё, а сьвята

Максімыч ня можа быць бяз справы. У часе стаянкі цягніка ён наладжвае гутаркі. Расказвае сабраўшымся аб становішчы ў капіталістычных краінах, уражаньні аб сацыялістычным будаўніцтве ў СССР.

— У Нямеччыне, Італіі і іншых капіталістычных краінах пануе расьцеранасьць,



няўпэўненасьць у заўтрашні дзень. А тут, у нас—у СССР—гэткі ўздым! Я вельмі многа атрымоўваю лістоў ад ударнікаў. Чытаю іх з захапленьнем. Працуюць, будуюць маладцавата, ня гледзячы на цяжкія ўмовы. Тут, у нас, у СССР, ня жыцьцё, а сьвята. Колектыўна людзі твораць дзівы. Больш чым дзівы. Падумайце, за два гады зрабіць такую „дзяржнавенную" штуку — колектывізаваць больш 47 проц. сялянскіх гаспадарак... Дый наогул, мы ідзем... і як ідзем! Як людзей перараждаем! А які гібкі народ,—харошы, малады, на ўсё здольны. Скажам, чытаеш двухкапеечную кніжку, напісаную ўдарнікамі, напісаную проста аб рабоце, жыцьці і перамогах і нехаця дзіву даешся, заха-

пляешся. А гэта ящчэ мы толькі вучымся Вучыцца нашаму брату ёсьць дзе. Мы жывём у выключны гістарычны пэрыяд, і, бясспрэчна, наша эпоха з саміх ударнікаў высуне такіх мастакоў, такіх масавікоў— пісьменьнікаў, ад кніжок якіх ахне Эўропа.

— А як ваша здароўе, Максімыч, як адчуваеце сябе.

— Нічога, як бачыце,—здаровы, вясёлы.

— Ці надоўга да нас прыехалі?

— На ўвесь летні пэрыяд, і наогул, пакуль будзе дазваляць здароў'е, кліматычныя ўмовы.

— У Крым бы вам, Максімыч, адпачыць,—нехта клапатліва раіць Горкаму.

— У калгасік, Аляксей Максімыч на адпачынак! А калгасік добры знойдзем,— жартуе адзін з прымежнікаў. Ня шкодзіла б,—жартуе Горкі.

— Раскажэце, як жывеце, працуеце?— зьвяртаецца Горкі да чырвонаармейцаў прымежнікаў.

— Нічога, Аляксей Максімыч! Жывем, Эсэсэраўку ахоўваем.

— А што гэта Эсэсэраўка—каробачка якая?—каб далей падтрымаць гутарку пытаецца Горкі.

— Каробачка, на якую ўсе капіталістыя зубы точаць. Аднак, і мы ня сьпім: тэхніку, Максімыч, усвойваем. Хто з чырвонаармейцаў матарысты, хто—рацыяналізатар, хто тэхнік. Трохлінейку таксама не забываем. Дапамагаем у рабоце па калектывізацыі. Раён наш маленькі, маем трактарную станцыю, хутка яна будзе мець 250 трактароў, а зараз мае 43. Раён калектывізаваны на 47,5 проц.

— А што сяляне ахвотна ідуць у калгасы?—пытаецца Горкі.

— Так...—разам, наўперабой адказваюць чырвонаармейцы Асабліва прыліў у калгасы павялічыўся за час другой бальшавіцкай.

— А як жанчыны?

— Жанчыны не заўсёды ідуць першымі ў колгас, пад час плятуцца ззаду. Як-жа! кароўку, коніка шкода абагульваць—разважаюць...

— Толькі не паклёпнічайце на жанчын.

— Нашы байцы, Аляксей Максімыч, зьяўляюцца ўдарнікамі. Хочам быць прыкладам для ўсёй вайсковай акругі. Каб быць добра падрыхтаванымі. Ваяваць мы ня хочам. Ну, а калі ўжо, Максімыч, і стукнем, дык стукнем! Як Будзёны казаў: стукнем, каб аж скула лопнула.

— А без вайны не абыйсьціся, не пражыць,—робіць сваю заўвагу Горкі.

Жывая, захапляючая гутарка працягвалася-б мабыць ящчэ надзвычайна доўга, каб ня трэ' было адыходзіць цягніку.

У дарозе ад Негарэлага да Менску Горкі доўгі час гутарыў з рабочымі ўдарнікамі менскіх прадпрыемстваў. Гутарыў аб ходзе выкананьня прамфінпляну, аб цяжкасьцях сацыялістычнага будаўніцтва і затым расказаў дадаткова рад абураючых фактаў з жыцьця рабочых капіталістычных краін.

— У жыцьці рабочых Польшчы, Італіі ва ўсіх капіталістычных краінах нічога няма прывабнага. Расьце з кожным днём беспрацоў'е, расьце нездаволеньне існуючым парадкам. Так, прыкладна, у Італіі, у тэатры зусім нядаўна быў выкінуты лёзунг: далоў Мусоліні! Кепска толькі, што сярод рабочых слаба арганізуючая сіла, няма стройнай моцнай арганізацыі. Кіраўнікі камуністычных арганізацый у сваёй большасьці арыштаваны, сядзяць у турмах. І ня дзіва: на 500 рабочых—70 правакатараў.

Вялікае ўражаньне на рабочых Італіі зрабілі ўдарнікі Абхазіі ў часе экскурсіі. Праўда ўражаньне гэта нельга было інакш адкрыта выразіць, як толькі моцным пажацьцем рук.

— Ці спыніла буржуазія траўлю супроць вас.

— Гэта ня мае ніякага дачыненьня. Я на гэта не зьвяртаю ўвагі. Мала, што нейкі там дурань з Нямеччыны напісаў, а буржуазная прэса падхапіла. Для мяне прыемна і радасна тая ўвага, якая была аказана мне працоўнымі СССР у многатысячных протэстах. Я ў прыватнасьці атрымаў больш 200 тэлеграм.

— Мы, вас Аляксей Максімыч, нікому ў зьнявагу не дамо, адказвае ўдарніца.

Цягнік ліхаманкава імчыцца. Пад'яжджаем да Менску. Тысячная калёна пролетарыяў-ударнікаў Менску з аркестрам, плякатамі спаткала прыезд свайго любімага пісьменьніка Максіма Горкага, Кароткі мітынг. Ад імя пролетарыяту і працоўных СССР Горкага вітае тав. Будзінскі.

„Ч. З." А. С.

## Дзе ўзяць добрага сабаку

Часта прыходзіцца чуць пытаньні? Дзе дастаць добрага шчанка?

Вядома, дрэннага сабакі нікому не патрэбна. Хочацца кожнаму набыць сабаку добрага, г. зн. і пароднага і добрага па палявых якасьцях. Між тым такіх сабак набыць няма дзе.

Вопыт разьвядзеньня сабак і аддачы іх па кантрактацыі паляўнічым вельмі марудны, а галоўнае тое, што добрых сабак завялі толькі 5—10 раёнаў, а апошнія маюць па 2—3 сабакі. Дзе-ж і якім чынам атрымаць сабак-вытворцаў для разьвядзеньня? Каб знайсьці выхад з гэтага становішча нам неабходна зьвярнуцца да сыстэмы гадавальнікаў—аднаго цэнтральнага гадавальніка, або невялікіх па раёнах. Я, прыблізна, ведаю становішча сабакагадоўлі ў БССР і мне здаецца, што толькі адно Барысаўскае т-ва ўзяла правільны курс для вырашэньня пытаньня сабакагадоўлі, а ўсе астатнія ў гэтым напрамку амаль нічога не зрабілі.

Мне будуць паказваць на гадавальнікі „Белкохотсаюзу“ і „Всекохотсаюзу“, што гэтыя гадавальнікі не апраўдалі сябе на практыцы. Мэта гэтых гадавальнікаў была добрая, але працавалі яны зусім нікуды. Вядома, што ў Менску ці пад Масквой утрымаць гадавальнік вельмі дорага каштуе, ня мэтазгодна. У такіх мясцох гадаваць магчыма толькі пакаёвак сабак. Па маёй думцы трэба арганізаваць гадавальнік далей ад буйных цэнтраў, у глухім раёне, забясьпечыць яго харчамі па нізкіх цэнах, наладзіць таннае абслугоўваньне, а галоўнае, каб каля месца гадавальніка паблізу былі добрыя ўгодзьдзі для нагонкі і навучаньня па зьверу і птахах сабак гадавальніка. Толькі пры такіх умовах магчыма будзе атрымаць для раёнаў у дастатковай колькасьці ня вельмі дарагіх сабак, але народзістых і добрых па палявых якасьцях.

Гэтых сабак, выведзеных у гадавальніку, трэба аддаваць пад кантрактацыю паляўнічым. Калі ня прымем у сабакагадоўлі сыстэму гадавальнікаў, мы ня зможам вырашыць сабакагадоўлі.

Трэба абмеркаваць гэтае пытаньне і пачаць працу ў гэтым напрамку. Ня трэба баяцца былых памылак—іх трэба вывучыць, каб мінаваць у далейшым і па новаму арганізаваць гадавальнік сабак.

**І—тар.**

# ПЕРАПІСКА З ЧЫТАЧОМ

Станкевічу А. П. Паказаць набой пораху і шроту для вашае стрэльбы, ня ведаючы нават яе вагі, не магчыма. Зважце стрэльбу і адпаведна калібру і вагі паспрабуйце ўзяць сярэдні набой як пораху, так і шроту, паказаны ў кніжцы Бутурліна „Дробовое ружье“. Калі бой будзе добры, на гэтым трэба і спыніцца.

Сірышу Я. Я. 1. Якую нарэзную стрэльбу вы хочаце набыць? Калі ТОЗ 22 калібру бакавога агня, дык яны і зараз прадаюцца ў паляўнічых т-вах. Другіх баявых сыстэм вінтовак зараз пакуль што на рынку ня сустракаецца.

2. Шратавік калібра 20, 16, 12 б‘е па зайцу да 75 аршын—нармальна, а па качцы, скажам крыжну—на 50—60. Ад павялічэньня плошчы мішэні, павялічваецца і шанс на пападаньне і наадварот.

3. Сярэдніх набояў для паказаных вамі калібраў шратавікоў, калі невядома сыстэма і вага стрэльбы паказаць нельга. Трэба ведаць вагу стрэльбы, сыстэму і нават, наколькі яна захавалася. Пачытайце танную кніжку праф. Бутурліна „Дробовое ружье“. (Можаце выпісаць па адрасу: Москва, Никольская ул., Ветошный 5, Изд-во „Охотник“). Там вы знойдзеце шмат карыснага.

4. На порах лепш класьці пыжы войлачныя, пакрытыя тлустасьцю, лепш садачныя, вырабу „Уралохотсоюза“, а на шрот—картонныя, ня тоўстыя і мягкія пракладкі.

5. Порах „Мядзьведзь“ у прадажы зараз сустракаецца.

6. Таму, што ня ўсе паляўнічыя любяць адзін гатунак пораху і ня ўсе стрэльбы б‘юць адзінакава адным і тым-жа порахам.

7. Калі гаварыць аб якасьці бою, дык

бiс прыстрэлкі і бяз спэцыяльных прылад вымяраньня каналу руляў угадаць яго немагчыма.

8. Стрэльбаў сыстэмы „Гра“, пакуль што, у Менску няма.

9. Рассыпае стрэльба па розных прычынах. Больш за ўсё ад няўмелага набою патронаў, калі рулі стрэльб не папсаваны. А то бываюць і рулі раздутыя.

Правільна прасьвідраваныя рулі стрэльбаў пры ідэальных набоях патронаў і падборы пораху і шроту як па вазе, так і па якасьці сыпаць ня будзе.

10. Шампалоўкі зараз, здаецца, не вырабляюцца.

11. Рэдакцыя патронаў нікому ня высылае. Зьвярнецеся да т-ва паляўнічых.

12. Вы гаворыце, відаць, аб рэвольвэрах. Такое ўзброеньне паляўнічаму ў беларускіх умовах не патрэбна.

---

# УЗМАЦНІМ АБАРОНУ КРАІНЫ.

**Мы, паляўнічыя Брагінскага калактыву паляўнічых, уносім на пабудову дырыжаблю „Клім Варашылаў“ і заклікаем пасьледваць нашаму прыкладу іншых таварышоў.**

Сьпіс паляўнічых Брагінскага калактыву, унёсшых на самалёт: Смальцэр Г. М.—5 р., Протчанка Т. П.—1 р., Слізько В.—1 р., Беразьняцкі—1 р., Заранік П. П.—1 р., Кандрацьеўскі П. А.—1 р., Юдзенок А. Е.—1 р., Камандзірчык Т. Д.—1 р., Смусенок М. М.—1 р., Шубенок Н. В.—1 р., Авраменка І. І.—1 р., Краўчэнка—1 р., Леаненка А. І.—1 р., Коцур Л. Ф.—1 р., Сапоненка Н. І.—1 р., Сабаленка Г. А.—1 р., Шубенок Г. М.—1 р., Шурмілаў Ф. С.—1 р., Каваль С. І.—1 р., Пракапенка К. Р.—1 р., Заранік Р. П.—1 р., Галубенка І. Д.—1 р., Губар А. І.—1 р., Літош В. І.—1 р., Крыштак С. Г.—1 р., Протчанка М. П.—1 р., Чмыраў А. С.—1 р., Леаненка Л. М.—1 р., Куліцкі С. А.—1 р., Штылеўскі П. І.—1 р., Вінічэнка А. П.—1 р., Шэўчанка П. З.—1 р., Жураўскі Н. І.—1 р., Іваненка І. Г.—1 р., Сапаненка М. Я.—1 р., Ерамчук М. П.—1 р., Літош-Груман Т. В.—1 р., Нікіценка І. К.—1 р., Белянок К. С.—1 р. **Усяго сабрана 40 рублёў.**

---



---

Рэдактар—К. М. ДАМАРАЦКІ,
рэдкалегія: ВОЛДЫНЬ, П. ТАМАШЭЎСКІ.
проф. А. У. ФЕДЗЮШЫН, Мік. ЦЭЛЕШ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1088. 17.000 экз. Галоўлітбел № 1186.

